# Дзяржаўны гімн Беларускай ССР

Урачыста, велічна.

Словы М. КЛІМКОВІЧА.

Музыка Н. САКАЛОЎСКАГА.

Мы — беларусы з братняю Руссю
Разам шукалі к шчасцю дарог,
Ў бітвах за волю, ў бітвах за долю
З ёй здабылі мы сцяг перамог!

Нас аб'еднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, Беларускі народ!

Сілы гартуе люд Беларусі
Ў братнім Саюзе, ў мужнай сям'і.
Вечна мы будзем, вольныя людзі,
Жыць на шчаслівай, вольнай зямлі!

Нас аб'еднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, наш свабодны народ!

Дружба народаў — сіла народаў,
К шчасцю працоўных сонечны шлях.
Горда-ж узвіся ў светлае высі,
Сцяг комунізма — радасці сцяг!

Нас аб'еднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, наш Совецкі народ!





Другі месяц ідуць заняткі ў сетцы комсамольскай палітасветы. Комсамольцы настойліва павышаюць свой ідэйны ўзровень. Адной з лепшых палітшкол на фабрыцы імя Крупскай у г. Мінску кіруе намеснік начальніка цэха Раіса Шуб. Яна старанна рыхтуецца да заняткаў, цікава праводзіць іх. Слухачы палітшколы добра засвайваюць матэрыял. На здымку: Раіса Шуб вядзе заняткі ў палітшколе (трэцяя справа).

Фото С. Чырэшкіна.

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання III.

№ 11(32).

Лістапад.

1955.

# ЗА МАСАВАСЦЬ ФІЗКУЛЬТУРНАГА РУХУ

У наступным годзе ў нашай краіне адбудзецца спартакіяда народаў СССР. Гэта — адно з найбольш масавых спартыўных мерапрыемстваў, якое мае на мэце ўцягненне ў фізкультурны рух новых мільёнаў юнакоў і дзяўчат, развіццё найбольш масавых відаў спорту, асабліва лёгкай атлетыкі.

Рабочыя і калгаснікі, студэнты і вучні ўсё больш авалодваюць спартыўным майстэрствам. У рэспубліцы зараз створана мільённая армія фізкультурнікаў. Асобныя фізкультурныя калектывы ў працэсе падрыхтоўкі да спартакіяды народаў СССР дабіліся значных поспехаў. Калектыў фізкультуры Мінскага завода імя Молатава за апошні час павялічыўся на 300 чалавек, добра працуюць там спартыўныя секцыі па лёгкай атлетыцы, веласіпеднаму спорту, стральбе, футболу. З поспехам выконваецца план па падрыхтоўцы значкістаў ГПА і спартсменаў-разраднікаў.

У фізкультурным калектыве калгаса імя Варашылава Крупскага раёна падрыхтавана ў гэтым годзе 3 спартсмены першага разраду, 12 — другога, 18 — трэцяга, 15 — юнацкага разраду. Маладыя спартсмены з любоўю гавораць пра сваіх настаўнікаў-трэнераў. Гэта яны крок за крокам выхоўвалі ў спартсменаў волю да перамогі, вучылі іх перадольваць цяжкасці. Трэнер — сябра, настаўнік і самы строгі суддзя спартсмена. Асабліва добрых поспехаў дабіліся трэнеры Л. Т. Лыкін, Е. М. Шукевіч, Б. Б. Левінсон, грамадскі трэнер з горада Бабруйска С. К. Герасімовіч і іншыя.

Нямала ёсць спартсменаў у нашай рэспубліцы, якія выканалі ў гэтым годзе нормы майстроў спорту СССР.

Аднак гэтыя поспехі яшчэ вельмі малыя ў параўнанні з тымі задачамі, якія стаяць перад камсамольскімі і фізкультурнымі арганізацыямі Беларусі. Трэба яшчэ шмат зрабіць, каб у выніку падрыхтоўкі да спартакіяды народаў СССР у рады фізкультурнікаў і спартсменаў уліліся новыя тысячы юнакоў і дзяўчат нашай рэспублікі. На прадпрыемствах, у калгасах, у навучальных установах трэба праводзіць растлумачэнне задач спартакіяды, арганізаваць масавую здачу норм на значок ГПА першай і другой ступені, усімі сіламі дабівацца, каб наша рэспубліка магла ганарыцца не толькі асобнымі рэкордамі, а заняла адно з першых месц па Саюзу. Задача спартыўных добраахвотных таварыстваў, камітэтаў фізкультуры, камсамольскіх арганізацый, асабліва на вёсцы, шырэй разгарнуць фізкультурны рух, забяспечыць яшчэ большую, сапраўдную масавасць яго.



Масква. Красная плошча вечарам.

Фото В. Собалева.

# ЗЗЯЮЦЬ ЗОРЫ КРЭМЛЯ

Іван ГРАМОВІЧ

Хто не марыў пабываць у Крэмлі?! Хто не збіраўся яшчэ з маленства наведаць Маскву, пабываць на Краснай плошчы, адкуль даносіцца звон курантаў, прайсці каля Спаскай вежы, пафарбаванай усходам сонца, як спяваецца ў песні?! Захапляюча выглядаюць старажытныя залатыя званіцы крэмлёўскіх сабораў!.. Гарыць і палыхае на ветры вечна маладое, ніколі няблекнучае ад спёкі палотнішча над купалам, які выглядае з-за сцяны, за Маўзалеем. Гэта палымяны дзяржаўны сцяг над будынкам Совета Міністраў.

Масква — сталіца Радзімы, а Крэмль—сэрца Масквы. Крэмль—багацейшы сусветны музей, найвялікшы рускі нацыянальны помнік архітэктуры.

Ідзем па Краснай плошчы. Сабор Васілія Блажэннага вызваляецца ад рыштаванняў. Рознакаляровыя, фальбоністыя цудоўныя купалы сабора рэстаўрыраваны, зіхацяць пазалотай. А ў Крэмлі рыштаванні абдымаюць яшчэ высокую вежу Івана Вялікага. Дбайна і клапатліва захоўваюцца гістарычныя помнікі нашых прадзедаў.

Штодня Крэмль наведваюць прыезджыя працоўныя з усіх куткоў Совецкага Саюза.

Кранутыя да сэрца, пакідаюць яны ў кнізе наведвальнікаў водгукі.

«Дзякуем партыі і ўраду за ахову найвялікшай скарбніцы гісторыі Рускай дзяржавы, — запісалі ваенныя маракі з Далёкага Усходу. — Мы з яшчэ большай пільнасцю будзем стаяць на варце марскіх граніц нашай Радзімы.

Камсамольцы, якія ад'язджалі на асваенне стэпаў Казахстана, так развітваліся са сталіцай:

«Ад'язджаем на цалінныя землі. Бывай здарова, Масква! Да пабачэння, Крэмль! Мы павязем твой вобраз з сабою. Ён будзе натхняць нас на слаўныя подзвігі».

А украінскія калгаснікі з Вінніцы напісалі:

«На ўсё жыццё застанецца ў памяці прабыванне ў Маскве і асабліва ў старажытным Крэмлі. Мы ўдзячны партыі і ўраду за тое, што багацці, якія раней служылі царам, сталі здабыткам калгасніка, каваля, палявода...»

Штодзённа наведваюць Крэмль 12—20 груп экскурсантаў. Іх суправаджаюць экскурсаводы, вопытныя знаўцы гісторыі і старадаўніх помнікаў.

Вось узвышаецца між іншых збудаванняў Крэмля Успенскі сабор. Будаўніцтва яго было закончана ў 1479 годзе. Калісьці на фоне драўляных будынкаў Масквы

гэта было найвышэйшае і найпрыгажэйшае збудаванне. Тут прымалі прысягу на вернасць Вялікаму князю маскоўскаму ўдзельныя рускія князі. Тут вянчаліся на царства цары, каранаваліся імператары. Вось каранавальны трон Івана Грознага!..

Благавешчанскі сабор пазірае ў неба дзесяццю купаламі — гэта так званы «дзесяціглавы сабор». Ён пабудаваны ў 1489 годзе. Наведвальнікі між волі скідаюць шапкі перад роспісамі вядомага рускага мастака-іконапісца Андрэя Рублёва, работы якога не старэюць да нашага часу.

Трэці сабор — Архангельскі, дзе размяшчаюцца ўсыпальні князёў і цароў. Ён закончаны ў 1509 годзе. Гэтым летам помнік рэстаўрыраваны, і экскурсанты цяпер любуюцца срэбнымі купаламі, аглядаюць яго знутры, там старанна праведзена ацяпленне і асвятленне.

Амаль побач з саборам стаіць выдатны помнік архітэктуры — званіца Івана Вялікага. Вежа вышынёю ў 81 метр была збудавана ў царстванне Барыса Гадунова. Адсюль можна было азіраць наўкол, а калі пагражала сталіцы небяспека, то званіць трывогу, апавяшчаць аб гэтым жыхароў горада. Да вежы-велікана прымыкае званіца вялікіх званоў.

Вось у падножжа званіцы на пастаменце стаіць усяму свету вядомы «цар-звон», які мае каля 200 тон вагі. Гэта — узор старадаўняга ліцейнага майстэрства. Тут-жа, недалёка, яго «сяброўка» — «цар-пушка», адлітая ў 1586 годзе майстрам Андрэем Чохавым. Некалі гэтую гармату празвалі «рускім драбавікам». Драбавік павінен быў страляць ядрамі-шрацінамі вагою ў дзве тоны.

Надзвычай шмат відаў зброі, рознага начыння захоўваецца ў залах Аружэйнай палаты — гэтай скарбніцы казачнага багацця і рэдкіх узораў старадаўняга майстэрства. Тут стаяць царскія карэты, летнія і зімовыя, парадныя і штодзённыя, сабрана конская вупраж, аздобленая дыяментамі і жэмчугам. Сярод дарагіх цацак, якімі забаўляліся цары і царыцы, тут захоўваюцца рэліквіі далёкага мінулага. Напрыклад, глядач з цікавасцю знаёміцца з шаблямі, якія секлі жалеза, вострымі шаблямі рускіх патрыётаў Кузьмы Мініна і князя Пажарскага. Шчыты, кальчугі, самапалы—тагачасная грозная зброя, з якой рускія воіны грамілі чужаземных прышэльцаў. Тройчы бачыў Крэмль навалу варожых захопнікаў: татараў, польска-літоўскага панства і арміі Напалеона, аднак ён тройчы даваў знішчальны адпор і тройчы ўзнімаўся з руінаў і папялішчаў.

Дзіву даешся, бачачы ў Аружэйнай палаце адмысловыя рэчы таленавітых майстроў, або, як іх звалі тады,—«золотых и серебряных дел мастеров». Тут цудоўныя ўзоры ювеліраў, пасуда і аздоба, нажы і куфэрчыкі. Тут вянец цара Міхаіла Фёдаравіча, упрыгожаны смарагдамі і сапфірамі, царскі скіпетр і дзяржава. Крэслы цара вынаходлівыя майстры аздобілі самацветнымі каменнямі і алмазамі. Тут гадзіннік, вынайдзены Кулібіным, і вядомая «шапка Манамаха».

Аружэйная палата сама па сабе багацейшая скарбніца. Усяго ў ёй не апішаш. Як нельга ўсё адразу падрабязна агледзець, так немагчыма і аб усім коратка расказаць.

Тут, у Крэмлі, кожны будынак, кожны куток апавядаюць цікавую казку гісторыі. Калі пачнеш у думках маляваць мінулае, звязанае з гэтымі рэчамі, або тым ці іншым месцам, то, як жывыя, паўстаюць падзеі. Вось тут, у Гранавітай палаце, куды заходзім ад Георгіеўскай залы праз так званыя «святыя сені», калісьці Іван Грозны святкаваў перамогу пасля разгрому татар у Казані. Тут Пётр Першы ўзнімаў здравіцу за перамогу пад Палтавай. Гранавітая палата была збудавана пры Іване III у 1491 годзе, а ў канцы XIX ст. яе сцены і столь аднавілі, распісалі жывапісцы Палеха браты Белавусавы. Гэтыя яркакаляровыя малюнкі на біблейскія тэмы глядзяцца, як новыя, хоць усё памяшканне свеціцца сівой даўнасцю.

Георгіеўская зала Вялікага Крэмлёўскага палаца з шасцю велізарнымі бронзавымі люстрамі, так знаёмымі па нядаўніх здымках. Сэрца б'ецца ад хвалявання, гледзячы на калоны, мармур, увесь напаўняешся ўрачыстасцю, праходзячы тут. Гэта — таксама гісторыя, хвалюючая гісторыя нашых дзён. У гэтай зале адбываліся сустрэчы кіраўнікоў партыі і ўрада з перадавікамі сельскай гаспадаркі, прамысловасці, адбываліся прыёмы замежных гасцей.

Пад Новы год на гэтым месцы зіхаціць упрыгожаннем ёлка і пошчакам нясецца песня шчаслівага маленства. Наведванне дзяцей, выпускнікоў-дзесяцікласнікаў Крэмля стала традыцыяй.

А вось і прыступкі, засланыя шырокім дыванам, па якім ішоў І. В. Сталін з саратнікамі. На ўсё жыццё запомніцца гэты выгляд лесвіцы па вядомай карціне мастака Герасімава.

У Крэмлі працаваў заснавальнік нашай партыі і Савецкай дзяржавы В. І. Ленін і прадаўжальнік яго справы І. В. Сталін.

Па тым Крэмлёўскім кургане, адкуль параўнаўча не так даўно грымеў салют у дзень Перамогі, калісьці, ячшэ ў 1918 годзе, між ёлачак, адпачываючы пасля ранення, прахаджваўся Уладзімір Ільіч Ленін... Выраслі дрэўцы з таго часу, непазнавальна змянілася, вырасла наша магутная Савецкая дзяржава, але ніколі не згладзіцца ў памяці народа тая суровая цяжкая гадзіна.

...Сакавік 1918 года. Петраграду, сэрцу рэвалюцыі, пагражаюць войскі нямецкага кайзера. Маладая Савецкая рэспубліка ў небяспецы...

І вось тады, у тую трывожную часіну, Крэмль убачыў кіраўнікоў Савецкай дзяржавы. У гэтым будынку перад Сенацкай плошчай, дзе да рэвалюцыі была маскоўская судовая палата, размясціліся Савет Народных Камісараў і Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт. Крэмль быў занядбаны. Яго вежы былі сведкамі, як Уладзімір Ільіч разам з іншымі таварышамі працаваў на суботніку па добраўпарадкаванню Крэмля. Цыферблат гадзінніка на Спаскай вежы быў разбіты снарадам. Па загаду Леніна «ў тэрміновым парадку» была рэстаўрыравана Спаская вежа. Пайшоў гадзіннік. Новым звонам зазванілі куранты.

У тых кутніх вокнах на трэцім паверсе паблізу Нікольскіх варот было памяшканне, дзе размяшчалася канцылярыя СНК і кабінет Леніна.

Кабінет, у якім па падлозе некалі ступалі лапці хадакоў да Леніна, надзвычай просты. Пісьмовы стол. На стале два тэлефоны. Уладзімір Ільіч многае рабіў сам. Ён не цярпеў валакіты і бюракратызма.

У кабінеце Ленін гутарыў з дэлегацыямі ад рабочых, з замежнымі рабочымі дэлегацыямі. Тут ён рыхтаваўся да выступленняў.

Непадалёку адгэтуль знаходзілася кватэра Уладзіміра Ільіча, у якой позна свяціўся ў вокнах агеньчык. Крэмлёўскія сцены, старажытныя вежы да таго яшчэ не бачылі такога простага чалавека і разам з тым такога вялікага, чыё слова набатам узнімала народ, як ніводзін крэмлёўскі звон.

Крэмль—сапраўднае сэрца сталіцы. Тут нястомна працуюць цяпер кіраўнікі нашай роднай партыі і ўрада.

Крэмль — для ўсіх сімвал міру і дружбы паміж народамі.



**Масква. Крэмль. Рабочы кабінет В. І. Леніна.**
Фото В. Егорава.



**Экскурсанты ў Крэмлі.**
Фото М. Мінковіча.



Віцебск — горад, у якім захаваліся каштоўныя матэрыяльныя помнікі XII—XIV стагоддзяў; горад, у якім яшчэ да рэвалюцыі быў моцны касцяк рабочага класа; горад, на прадпрыемствах якога і сёння працуюць удзельнікі гераічных падзей Вялікага Кастрычніка. Віцебск, як і ўся наша вялікая краіна, стаіць сёння на працоўнай вахце ў гонар XX з'езду КПСС.

Раніцай, калі шызы туман, што ўзнімаецца над крутымі берагам Заходняй Дзвіны, яшчэ закрывае прыбярэжныя кварталы, магутнае дыханне Віцебска адчуваецца па заводскіх, параходных і паравозных гудках. Яны ўзнікаюць у самых розных месцах. Станкабудаўнічыя заводы, прадпрыемствы лёгкай прамысловасці, камбінат, які выпускае зборныя жылыя дамы, заводы дакладных прыбораў — вось далёка няпоўны пералік прадпрыемстваў горада. У інтэлігенцыі Віцебска сваё напружанае жыццё. Навуковыя работнікі, прапагандысты, настаўнікі імкнуцца ўнесці свой уклад у агульную справу.

Яшчэ нядаўна горад ляжаў у руінах. Здавалася няма такой сілы, якая здолела б падняць яго. Але камуністы і камсамольцы, усе працоўныя не спалохаліся цяжкасцей. На месцы папялішчаў і пажарышчаў выраслі гмахі фабрык і заводаў, жылых дамоў і клубаў. І цяпер, напярэдадні XX з'езду КПСС, працоўныя Віцебска памнажаюць свае поспехі. Наш фотакарэспандэнт пабываў на фабрыках і ва ўстановах Віцебска. Усюды яму расказвалі пра новыя працоўныя перамогі віцьблян. Гэтыя фотаздымкі і апавядаюць пра іх слаўныя справы.

Фото А. ДЗІТЛАВА.

# Горад



Удзельнікі будаўніцтва завода жалезабетонных вырабаў камсамольцы Леанід Аляксееў (злева) і Яўгені Салаўёў. Комплексная брыгада, якой кіруе Л. Аляксееў, у дні вахты здала пад мантаж памяшканне бетоназмяшальнай установкі і пачала будаўніцтва склада цэменту.

Шматтысячны калектыў трыкатажнай фабрыкі «КІМ» у большасці складаецца з моладзі. Адна з перадавых работніц катоннага цэха камсамолка Тамара Квіткова пачала працаваць новым метадам, што значна павялічыла прадукцыйнасць працы. Тамара актыўна ўдзельнічае ў жыцці камсамольскай арганізацыі фабрыкі.



Горад Віцебск будуецца па новаму плану. Гэта будзе адзін з прыгажэйшых гарадоў Беларусі. Кожны месяц тут здаюцца ў эксплуатацыю новыя дамы, карпусы заводаў. Зусім нядаўна будаўнікі комунальных аб'ектаў Віцебска ўвялі ў строй новы мост цераз Дзвіну.







У Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры імя Якуба Коласа ідуць рэпетыцыі п'есы, напісанай артыстам гэтага тэатра А. Гутковічам па раману Д. Граніна «Шукальнікі».



# на вахце

П. П. Маскалёў, які працаваў слесарам вагоннага дэпо і ў 1917 годзе, часта дзеліцца сваім вопытам з маладымі рабочымі. Зараз ён і камсамолка-свідравальшчыца Феня Шлапакова апрацоўваюць адны і тыя-ж дэталі. Стары Маскалёў дапамагае камсамолцы сваімі парадамі, уменнем, якое ён набыў за доўгія гады працоўнага жыцця. Стары рабочы і маладая свідравальшчыца таксама стаяць на вахце ў гонар XX з'езду КПСС.

Гэты здымак зроблены на заводзе электравымяральных прыбораў.

— Вы пытаецеся, чаму пры рабоце даводзіцца карыстацца спецыяльнымі бінакулярнымі акулярамі? Я раблю пайку момантных спружынак, сячэнне якіх вымяраецца сотымі долямі міліметра. Гэта вельмі дакладная работа! — гаворыць камсамолка Аня Агрэст. Яна ў гэтыя дні перавыконвае нормы.



Ягор Дзенісёнак заканчваў у дні вахты работу на даху шматкватэрнага дома на вуліцы Кірава. Ён, як і многія іншыя будаўнікі Віцебска, любуецца новымі прыгожымі будынкамі горада. Сустрэўшы таварышаў, усміхаючыся, ён гаворыць:

— Падабаецца?.. Наша работа!

* * *

Прайшло 38 год з таго часу, як рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам бальшавікоў узялі ўладу ў свае рукі, пачалі будаваць новае жыццё. За гэтыя гады працоўныя Савецкага Саюза дабіліся такіх вялікіх поспехаў, пра якія не мог нават марыць чалавек.

Гэта добра відаць на прыкладзе старадаўняга горада Віцебска. Да вайны невялікі горад з двума-трыма саматужнымі прадпрыемствамі, ён за гады савецкай улады ператварыўся ў буйны прамысловы цэнтр. У сотні разоў вырас яго рабочы клас, самую разнастайную прадукцыю дае ён краіне. Да XX з'езду КПСС працоўныя ідуць з новымі поспехамі.



# У АГНІ ТРОХ РЭВОЛЮЦЫЙ

Ф. В. СІМАНЧЫК

## 1. ДАРОГАЙ БАРАЦЬБЫ

Да мяне, старога большэвіка і старога ўжо чалавека, нярэдка звяртаецца моладзь: «Раскажыце Фёдар Васільевіч, якое жыццё было раней, як вы рабілі рэвалюцыю, як адбіралі ўладу ад цара, памешчыкаў і капіталістаў?» Гэта вялікае пытанне, і адразу, двума словамі, на яго не адкажаш. Аб старым жыцці скажу наперад, што яно адрозніваецца ад жыцця нашага, савецкага, як неба ад зямлі. Сёння перад кожным маладым чалавекам шырока адчынены дзверы ў жыццё. Вучыся, выбірай сабе любую прафесію, працуй. Вы, савецкія юнакі і дзяўчаты, спакойныя за свой лёс, вы ведаеце, што заўсёды знойдзеце прымяненне сваім сілам і здольнасцям.

Не тое было раней, у дарэвалюцыйны час, калі гаспадарамі жыцця былі памешчыкі і капіталісты. Узяць хоць-бы мяне ў мае маладыя гады. Нарадзіўся я ў 1885 годзе ў вёсцы Плесавіцкая Слабада былога Бабруйскага павету (цяпер Кароткавіцкі сельсовет, Стрэшынскі раён, Гомельскай вобласці). Вёска наша маленькая, з усіх бакоў да яе падступалі сыпучыя пяскі. Сяляне жылі ў страшэннай беднасці, бо ўсе лепшыя навакольныя землі належалі памешчыку Мурашку і другім панам. Свайго хлеба не хапала нават да каляд.

У мяне было два браты і сястра (бацька мой памёр, калі мне было ўсяго тры месяцы). І ўсе разбрыліся па свеце, батрачылі, зараблялі сабе кавалак хлеба. Я вымушаны быў думаць пра заработак на жыццё з самага ранняга дзяцінства. Няньчыў дзяцей у чужых людзей, пасвіў гусей, свіней, а крыху пазней даверылі мне кароў.

Да шаснаццаці год я не ўмеў ні чытаць, ні пісаць, бо вучыцца ў школе мне не прышлося. Крыху пазней паступіў я рассыльным у бабруйскую гасцініцу. Тут іншы раз спыняліся студэнты, некаторыя з іх былі рэвалюцыйна настроенымі людзьмі. Адзін з такіх студэнтаў і зацікавіўся мной. За невялікі час ён навучыў мяне чытаць і пісаць. Спачатку разбіраў я надпісы на шыльдах, а праз некаторы час узяўся і за кнігі. Першымі кнігамі, якія трапілі мне ў рукі, былі рэвалюцыйныя пракламацыі і брашуры. Тое, аб чым я прачытаў у іх, усхвалявала мяне да глыбіні душы, накіравала мае думкі ў пэўным напрамку.

Нелегальная літаратура давала мне адказы на многія пытанні, якія моцна мяне цікавілі і хвалявалі. К гэтаму часу я ўжо нямала пахадзіў па людзях і даволі бачыў людскога гора. Бачыў страшэннае беззямелле сялян, невыносна цяжкае жыццё рабочага люду. Рэвалюцыйныя лістоўкі, брашуры адкрылі мне вочы на існуючы стан рэчаў, падказалі, што трэба змагацца з несправядлівым царска-памешчыцкім ладам.

Фёдар Васільевіч Сіманчык з унукам на прагулцы ў пасёлку трактарнага завода.



## 2. У ГРОЗНЫЯ ДНІ ПЕРШАЙ РУСКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

У Бабруйску была досыць значная колькасць розных прамысловых прадпрыемстваў, на якіх працавалі сотні рабочых. У так званай «П'янай слабодцы» быў размешчаны цагельны завод, быў яшчэ вінакурны завод Незабітоўскага, невялікі металургічны завод Палтаржыцкага і Мацішэўскага, на «Крывым круке» знаходзіўся дрэваапрацоўчы завод Баумана і яшчэ два дрэваапрацоўчыя заводы.

У 1903 годзе ў Бабруйску ўзнікла сацыял-дэмакратычная група, у рады якой хутка ўступіў і я. Мы вялі шырокую рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых, распаўсюджвалі нелегальную літаратуру, лістоўкі. У той час мы атрымоўвалі ўжо з-за мяжы ленінскую «Искру». Мне якраз і было даручана захоўванне нелегальнай літаратуры, і таму ў таварышаў я меў клічку «Федзька-іскравец». Я працаваў сярод рабочых цагельных і дрэваапрацоўчых заводаў. Часта збіраліся мы на нелегальныя сходкі дзе-небудзь у напоўразбураным хляве або ў ляску за горадам. Чыталі большэвіцкія брашуры, газеты, размаўлялі аб тым, як трэба змагацца з царызмам, з памешчыкамі і капіталістамі, як адстойваць свае рабочыя інтарэсы.

Наша арганізацыя хутка расла. Гэтаму росту спрыялі гурткі, дзе рабочыя авалодвалі тэорыяй палітычнай барацьбы, масоўкі, якія мы праводзілі даволі часта. У нашы рады ўступалі перадавыя рабочыя, якія ўсвядомілі для сябе неабходнасць змагацца з капіталістычным прыгнётам. Наша група вяла зацятую барацьбу з Бундам, каб вырваць з-пад яго уплыву масы яўрэйскіх рабочых і служачых. Як цяпер памятаю былую Мураўёўскую вуліцу, дзе на царкоўным цвінтары збіралася шмат народу і дзе абавязкова хто-небудзь з нашых таварышаў, завёўшы самую звычайную гутарку з якім-небудзь рабочым, заканчваў яе тым, што цішком перадаваў яму большэвіцкую пракламацыю.

Мы стараліся бываць там, дзе звычайна збіраўся працоўны народ: на вечарынках, на вяселлях і нават у піўных. Нашы сувязі раслі. Хутка ў нас былі ўжо аднадумцы і сярод салдат мясцовага гарнізона. Рэвалюцыйна настроеныя салдаты перадавалі нам зброю, дапамагалі ў многіх справах.

Тады-ж мяне першы раз арыштавалі. Жандарам было цяжка даказаць мой удзел у рэвалюцыйнай рабоце — па дакументах я лічыўся зусім непісьменным. Пратрымаўшы мяне некалькі месяцаў у турме, яны выпусцілі мяне пад нагляд паліцыі.

Ішоў 1905 год. Магутная хваля рэвалюцыйнай барацьбы ахапіла і Бабруйск. Наша сацыял-дэмакратычная арганізацыя з'яўлялася ўжо сур'ёзнай сілай, якая вяла за сабой многія сотні рабочых.

Пасля вядомай «Крывавай нядзелі» — расстрэлу рабочых Пецярбурга 9 студзеня 1905 года — мы арганізавалі і правялі агульную забастоўку на ўсіх прадпрыемствах горада. Я ўзначальваў у гэты дзень групу пікетчыкаў. Паліцыя, жандары прыклалі ўсе сілы, каб сарваць забастоўку. Але яна прайшла дружна. Рабочыя Бабруйска наглядна засведчылі сваю салідарнасць з рабочымі ўсёй Расіі. У тыя рэвалюцыйныя гады было шмат другіх выступленняў бабруйскага пралетарыята, адбылося паўстанне воінскага батальёна ў Бабруйску, прайшла забастоўка тысячы дамашніх работніц. Усе гэтыя выступленні накіроўваліся бабруйскай сацыял-дэмакратычнай групай, у якую ўваходзіў і я.

## 3. У ССЫЛЦЫ

Пасля памятных падзей 1905 года, пасля таго, як рэвалюцыя пайшла на спад, заставацца ў Бабруйску мне было немагчыма. Мяне ўжо досыць добра ведала і паліцыя і шпікі. Таму партыя перакінула мяне на поўдзень, у горад Елізаветград (цяперашні Кіравагрworld). Гэта быў буйны прамысловы цэнтр, дзе налічвалася больш 15 значных прамысловых прадпрыемстваў. У Елізаветградзе пад чужым прозвішчам я працаваў ужо як кадравы партыйны работнік.

Нягледзячы на наступленне рэакцыі, рабочы клас не здаваўся. То на адным, то на другім заводзе ўспыхвала забастоўка, рабочыя зрывалі розныя чорнасоценныя мерапрыемствы, папярэджвалі яўрэйскія пагромы. Генерал Зялёны, які быў прысланы для падаўлення рэвалюцыйных выступленняў у горадзе, самымі жорсткімі рэпрэсіямі, арыштамі не мог зламаць баявога духу рабочых.

Неўзабаве мяне арыштавалі ў другі раз. Суд прыгаварыў мяне да двух год высылкі. Пакаранне прышлося адбываць у вёсачцы Ляўля Архангельскай губерні. Мяне вабіла рэвалюцыйная работа, я быў у той час маладым і дужым, таму мне ўдалося вельмі хутка ўцячы з ссылкі. Прыехаў я ў Мінск і быў кааптыраваны ў гарадскі камітэт партыі. Працаваў я ў Мінску пад прозвішчам Фёдара Бляева, жыў на былой 2-й Серабранцы на кватэры ў рабочага Шкурдзі.

Пасля паражэння рэвалюцыі большэвікі вялі не толькі падпольную рэвалюцыйную работу, яны выкарыстоўвалі для сувязі з масамі і розныя лягальныя арганізацыі. У Мінску я і мае таварышы арганізавалі, напрыклад, выступленне дробных арандатараў супроць памешчыка Любанскага, землі якога знаходзіліся каля цяперашняй станцыі Козырава. Канфлікт узялася разбіраць зямельная ўправа. У гэтай управе мы наладзілі сапраўдны мітынг. Арандатары на ўвесь голас заявілі, што не будуць плаціць вялікага чыншу памешчыку.

Успамінаю, дарэчы, даволі цікавы выпадак з маёй мінскай работы. Адна з нашых явачных кватэр знаходзілася побач з домам Мінскага генерал-губернатара Курлова. Паліцыя і шпікі збіліся з ног, але яе так і не выявілі.

Крыху пазней па заданню партыі я быў перакінуты на работу ў вёску. Вёў палітычную агітацыю сярод сялян на Міршчыне, Случчыне, каля Нясвіжа. Гэтая работа не прапа-

дала дарэмна. Яна вылівалася ў рэвалюцыйныя выступленні сялян, якія захоплівалі памешчыцкія землі.

Да нас, бальшэвікоў, працоўны народ адносіўся з вялікай сімпатыяй і павагай, бо бачыў у нашай асобе сапраўдных абаронцаў народных інтарэсаў. Памятаю такі выпадак. Аднойчы я вяртаўся з вёскі. Жандары ўжо ведалі пра маю дзейнасць і стараліся мяне злавіць. Зрабіць гэта ім было лягчэй за ўсё на станцыі, дзе мне трэба было садзіцца на поезд. Станцыя таму для мяне была самым небяспечным пунктам. Ішоў я да станцыі непрыкметнай палявой дарогай і не ведаў, што мне рабіць, каб не трапіць у лапы жандараў. Раптам мяне дагнала фурманка. Старая жанчына праводзіла ў армію свайго сына, які вяртаўся з пабыўкі. Яны прапанавалі падвезці мяне. А калі я разгаварыўся з імі і яны здагадаліся, хто я, жанчына неадкладна прапанавала мне надзець шынель свайго сына. Цяпер я быў у бяспецы, салдат якраз служыў у пагранічных войсках, і яго нашыўкі што-небудзь ды значылі.

Усё-ж мяне праз нейкі час арыштавалі, ужо ў трэці раз. Па этапу я быў дастаўлены ў Кем, на поўнач. На гэты раз уцячы не давялося. Але для бальшэвіка і высылка не прападала дарэмна. Увесь гэты час быў заняты вучобай, тэарэтычнай падрыхтоўкай.

### 4. ГЭТА БЫЛО Ў КАСТРЫЧНІКУ

У час імперыялістычнай вайны я быў на фронце. Вёў рэвалюцыйную работу сярод салдат. Гэтая работа давала свае вынікі. Салдаты маёй роты ўсё больш разумелі, што вайна развязана памешчыкамі і капіталістамі, што народу яна непатрэбная. Пасля лютаўскай рэвалюцыі мяне абралі ў палкавы камітэт. Поле маёй дзейнасці цяпер пашырылася. На салдацкіх мітынгах мы выступалі патрабаванні аб спыненні вайны, выкрывалі згодніцкую палітыку Часовага ўрада. Усё часцей на нашым участку фронта здараліся братанні.

Кастрычніцкую рэвалюцыю я сустрэў у вайсковым шпіталі. Але ў такія дні лячыцца не было калі. Трэба было змагацца за канчатковую перамогу рэвалюцыі, справы вялікага Леніна.

У памятныя лістападаўскія дні 1917 года я вярнуўся ў Бабруйск. З пуцёўкай павятовага камітэта партыі пайшоў па вёсках Бабруйшчыны арганізоўваць на месцах савецкую ўладу. Незабыўныя былі гэта дні. Былі жорсткія схваткі з прадстаўнікамі эсэраўскай партыі, якія імкнуліся пасланць пабольш сваіх дэлегатаў ва Устаноўчы сход, з рознымі прыхільнікамі старога парадку жыцця.

У хуткім часе мяне абралі старшынёй Сцепской валаснoй управы. Мне прышлося наладжваць новае, савецкае жыццё там, дзе я некалі нарадзіўся. Сяляне нашай воласці і бліжэйшых валасцей аднадушна галасавалі за бальшэвіцкі спіс № 9 ва Устаноўчы сход.

Калі на беларускую зямлю прыйшлі войскі кайзераўскай Германіі, ім была аб'яўлена зацятая партызанская вайна. Немцы доўга не ўтрымаліся. Водгулле Вялікага Кастрычніка падняло на барацьбу і нямецкі рабочы клас. У Германіі ўспыхнула рэвалюцыя. Мы арганізавалі 6 партызанскіх атрадаў, якія вялі бязлітасную барацьбу з нямецкімі, а пазней з польскімі захопнікамі.

У 1919 годзе мяне перакінулі на працу ў Бабруйск. Цяжкі гэта быў год. На маладую Савецкую рэспубліку з усіх бакоў напірала знешняя і ўнутраная контррэвалюцыя. Разам з матросам Гарнастаем, які быў загадчыкам бабруйскага зямельнага аддзела, а я яго намеснікам, на месцы памешчыцкіх маёнткаў мы арганізоўвалі савецкія гаспадаркі. Такіх гаспадарак было арганізавана 125. Чырвоную Армію, гарады і заводы трэба было забяспечваць харчаваннем, амуніцыяй. Усе сілы мы аддавалі гэтай высокароднай справе.

Справа Кастрычніка перамагла. Яна перамагла, нягледзячы на самую жорсткую вайну, якую аб'явіла ёй знешняя і ўнутраная контррэвалюцыя. Яна перамагла, бо нельга было перамагчы народ, які імкнуўся да новага, светлага жыцця, нельга было перамагчы загартаваную ў агні трох рэвалюцый партыю бальшэвікоў!



Пётр Ісачанка.

Фото С. Чырэшкіна.

# ЗАЛАТЫЯ іскры

Рыгор НЯХАЙ

Сталь гатова. Печ пакорліва нахіляецца — і ў коўш льецца сонечны струмень, барвовабелы, такі яркі, што рэжа ў вачах. Зверху пырскаюць залацістыя іскры. Яны разлятаюцца ва ўсе бакі і невялічкімі зорачкамі падаюць на падлогу. Вокны ў цэху асвятляюцца таксама барвовымі фарбамі. Электрычныя лямпачкі ў гэты час здаюцца цьмянымі: свячэнне сталі як-бы паглынае іх святло. І твары сталевараў, і шматлікія механізмы, і шырокія пралёты цэха — святлеюць. Усё гаворыць аб тым, што пачаўся ўрачысты момант — бярэцца чарговая плаўка. Праз хвіліну магутны кран падхопіць коўш і лёгка панясе яго да канвеера, па якім цягнецца бясконцая істужка форм. Яны прымуць у свае разоры струменьчыкі вадкага металу. У другім цэху з іх потым выймуць гатовыя дэталі.

Каля печы не толькі сталевары з чарговай змены. Паглядзець на якасць плаўкі прышлі і іх паплечнікі з папярэдняй змены. У кожнага з іх акуляры з каляровым шклом, праз якія можна спакойна наглядаць за агністым струменем Як мастаку хочацца глядзець і глядзець на свой твор, так і сталевару — на плаўку сваёй печы. Мускулістыя, загарэлыя хлопцы ў саколках ужо засыпаюць дно печы спецыяльна падрыхтаваным пяском, а малады сталевар у чорным пінжаку і ваенным галіфе — Пётр Ісачанка — усё яшчэ ходзіць вакол печы і заглядае праз акуляры ў кожную шчыліну.

— Сталь яшчэ не ўся выйшла, — вызначае ён. — Хай пададуць коўш.

Ізноў пырскаюць іскры, ізноў свеціцца сонечны струмень.

Пётр Ісачанка паспеў пасля змены пабываць ужо ў душы, пераапрануцца, але не мог ён не зайсці ў цэх. На сваёй-жа змене ён запраўляў печ шыхтай, кіраваў тэхналагічным працэсам — варыў сталь, а выпускаюць яе ўжо яго таварышы з другой змены. Як зварылася сталь, сталевар павінен ведаць абавязкова. Вось ён і прышоў. Дае парады, дапамагае і час-ад-часу пазірае на гадзіннік. Яму хутка трэба быць на занятках у вячэрнім тэхнікуме.

— Калі-ж вы рыхтуецеся да заняткаў?

Ісачанка спачатку нават разгубіўся ад гэ-

тага пытання, паціснуў плячыма, а потым, дабрадушна ўсміхнуўшыся, прамовіў:

— У тэхнікуме буду да адзінаццаці. Раніцай трэба на работу. Але, калі захочаш вучыцца, знойдзеш і час. Ёсць-жа ў нас і вольныя ад заняткаў дні і выхадны дзень — гэта раз. А па-другое, мне не так ужо цяжка вучыцца, бо да службы ў арміі я закончыў першы курс Магілёўскага машынабудаўнічага тэхнікума.

Ён падае мне свае сталяварскія акуляры:

— Паглядзіце, якая сталь! Прыгажосць!.. Цяпер яна крыху астыла. А калі кіпела ў катле, мела тэмпературу каля 1700 градусаў. Якасць мы нават па колеру пазнаем.

Роўнымі струменьчыкамі метал разліваўся па формах. Увачавідкі ён барвавеў, і канвеер адносіў адлітыя дэталі ўсё далей і далей.

— Там дэталі ўзважаць, і тады мы будзем ведаць канчатковыя вынікі сваёй працы: колькі тон далі за змену.

Ісачанка хоча дачакацца вынікаў, таму не ідзе з цэха, і ў нас ёсць час пагутарыць. Гаворыць ён аб сабе вельмі скупа:

— Малады я, 1930 года нараджэння, — якбы апраўдваецца Ісачанка. — І на заводзе працую не так даўно...

Хлопец успамінае сваё маленства, і мне ўяўляецца яго вёска на Магілёўшчыне каля Шклова. Бацька загінуў на фронце. Засталася маці і малодшы брат. Вось так яны і пачалі ўтраіх прабіваць дарогу ў жыццё. Пётр заканчваў сямігодку, маці працавала ў калгасе, меншы брат таксама вучыўся...

— У наш час, як толькі чалавек становіцца на ногі, дзе-б ён ні жыў — у горадзе ці ў вёсцы, — давай яму тэхніку, машыны... У горадзе яно само сабой зразумела — на кожным кроку машыны: трамвай, аўтамабіль, бульдозер, вежавы кран, цягнік... і не толькі ў горадзе тэхніка, яна прышла і ў вёску. І хлапчукоў хлебам не кармі, а толькі дай ім пасядзець побач з трактарыстам або хоць пахадзіць за трактарам, калі ён уздымае тлустыя скібы на полі. А хіба не прыемна зайсці ў майстэрню МТС: хоць пастаяць ды паглядзець, як палаюць горны, як мяняецца пад умелымі рукамі майстроў пругкі метал!.. Зойдзе ў майстэрню трактар замурзаны, чорны, нават кульгае, як той калека, а выйдзе адтуль — бліскучы, паваротлівы, быццам новенькі. Пакарыць жалеза, зрабіць паслухмянай машыну, быць над ёй гаспадаром — вось мары хлапчукоў. Праўда, не ўсе хлапчукі становяцца трактарыстамі, шаферамі або рамонтнікамі ў МТС. Будучае больш акрэслена вызначаць іх імкненні да прафесіі.

У Пятра мара была больш акрэсленая, чым у яго сяброў. Ён цвёрда вырашыў навучыцца не толькі кіраваць тэхнікай, але і ствараць яе. І Пётр Ісачанка пасля заканчэння сямігодкі паступае ў Магілёўскі машынабудаўнічы тэхнікум. Правучыўшыся год, трэба было ісці ў армію. Якой-бы непрывычнай ні была служба ў арміі, яна многае дае чалавеку. Там канчаткова выпрацоўваецца характар, чалавек мужнее, набывае спрыт і смеласць. Адным словам, чалавек пераступае парог у вялікае жыццё. У арміі Ісачанка яшчэ больш пазнаёміўся з тэхнікай, набыў неабходныя веды, палюбіў яе назаўсёды. Ён служыў у танкавай часці. І пасля дэмабілізацыі ні на хвіліну не задумаўся над тым, куды пайсці на працу. Толькі на заводы-гіганты, якіх нямала цяпер на Беларусі, на якіх ствараецца складаная тэхніка, аўтамабілі, трактары, матацыклы!

Ісачанка выбраў Мінскі трактарны завод. Прышоў ён сюды ў канцы 1953 года. Завод працаваў поўным ходам. На двары стаялі новенькія тралёвачныя трактары, паблісквалі свежай фарбай прыгожыя трактары «Беларусь». Вось яна, кузня машын!

Радасна было на сэрцы, калі малады рабочы хадзіў па велізарных шумных цэхах. Гэта ўжо не майстэрня МТС — гэта гігант! Сталеліцейны цэх яшчэ абсталёўваўся, рыхтаваўся да пуску. Другія цэхі працавалі на поўную магутнасць. Там сотні майстроў сваёй справы ўмела рабілі ўжо з металу ўсё, што патрэбна было заводу. А тут, у сталеліцейным? Тут чакалі майстроў, чакалі тых, хто здолеў-бы зварыць сталь, выліць з яе трактарную дэталь.

— Хочаш стаць сталяварам? — спыталі ў Ісачанкі.

Быць сталяварам? Працаваць у самым сэрцы завода? Першаму пачынаць выпуск трактара? Канешне, хоча! І вось група маладых рабочых, камсамольцаў, едзе ў Харкаў на трактарны завод, вучыцца ў вопытных майстроў. Украінскія машынабудаўнікі цёпла сустрэлі мінчан. Пётр Ісачанка, Іван Кісялеў, Іван Радзюкевіч, Віктар Астравухаў і іншыя таварышы пачалі вучыцца. Праз тры месяцы Ісачанка ўжо даў першую самастойную плаўку. Залатыя іскры радаснымі агеньчыкамі адлюстроўваліся ў яго вачах. Сталь пайшла добрая. Значыць, і Мінскі трактарны завод будзе мець добрую сталь.

Калі закончылася вучоба і быў набыты неабходны вопыт, хлопцы вярнуліся ў Мінск, прыйшлі ў свой родны цэх. Іх чакала новая тэхніка. Атрымалася так, што амаль увесь цэх быў укамплектаваны маладымі рабочымі, камсамольцамі. Пачалася самастойная праца. Трэба было працаваць без нагляду вопытных харкаўскіх сталявараў, зусім самастойна, трэба было дакладна авалодаць тэхналагічным працэсам, даць добрую па якасці сталь.

— Вы ўяўляеце, — гаворыць Пётр Ісачанка, — якая гэта адказная справа? Завысіш цвёрдасць сталі — яна становіцца хрупкай.

Па ўсхваляваным голасе сталявара няцяжка зразумець, што былі і няўдачы. Аднак гэтыя няўдачы — нішто ў параўнанні з тым, што сталь пайшла і добрая сталь, высокай якасці, такая, якая патрэбна заводу. Між маладымі сталяварамі разгарнулася спаборніцтва. Іван Радзюкевіч стаў даваць, замест двух, тры плаўкі, атрымліваласе не 10, як прадугледжана нормай, а 16—17 тон сталі за змену. Астравухаў паспрабаваў зварыць чатыры плаўкі і атрымаць звыш 25 тон сталі. А каму хочацца адставаць ад таварыша? Усе-ж яны разам вучыліся і ўсе амаль аднаго ўзросту, дык хіба-ж можна адставаць? Нарэшце, у цэху было зварана за змену пяць плавак і дадзена больш трыццаці двух тон!



У ліцейным цэху.
Фото М. Мінковіча.

Пётр Ісачанка вельмі спакойны па характару. Ён упэўнена авалодвае сваёй прафесіяй. Варыць добрую сталь — вось яго задача. І ён гэтую задачу з гонарам выконвае. Цяпер Ісачанка — лепшы сталявар на заводзе.

Ідзе новая запраўка электрапечы. Пад'ёмны механізм нясе чарговую порцыю жалезнага лому. Гэты лом збіраўся усюды, па ўсёй рэспубліцы. Тут і адыходы прамысловых прадпрыемстваў, і лом, сабраны з палёў Айчыннай вайны. Як прыемна бачыць, што рэшткі фашысцкай ваеннай тэхнікі, якая была зроблена для знішчэння людзей, умелымі рукамі сталявараў пераплаўляюцца ў мірную сталь. З яе зробяць дэталі трактараў, што будуць уздымаць цаліну, траляваць лес, прыносіць багацце і радасць чалавеку.

Вось пад'ёмны механізм падышоў ужо да печы, і ў яе вогненную пашчу ссыпаецца сем тон грузу. Цяжкі жалезны молат утрамбоўвае лом, а пад'ёмны механізм, распусціўшы свае шматлікія шчупальцы, лёгка адыходзіць назад. На тварах сталявараў прыкметна хваляванне. Зараз пачне варыцца сталь! На пульце кіравання націскаецца кнопка, і печ становіцца на сваё месца. Апускаюцца электроды, моцны трэск напаўняе цэх, над печчу уздымаецца барвовае полымя. Плаўка пачалася! Напружана сочаць сталявары за печчу, чула прыслухоўваюцца да трэску. Ён праз нейкі час становіцца цішэйшым, у печы перастае бурліць і клякатаць. Значыць, шыхта расплавілася. Наступае ўрачысты момант. Падручны нясе метал на аналіз у лабараторыю.

— Усё добра, — вяртаючыся, крычыць ён здалёк. — Можна пачынаць...

Ізноў плыве ў коўш агністы ручай, ізноў пырскаюць залатыя іскры. Гэтую сталь зварылі ўжо майстры, якія змянілі Пятра Ісачанку.

— Вы прабачце, але я не магу не хвалявацца, — як-бы апраўдваецца ён. — Неяк усё тут мне стала родным — і гэты велізарны цэх, і магутны трэск электродаў, і рух механізмаў. А сябры, вось гэтыя дужыя хлопцы, цяпер — адна сям'я. Разам мы працуем, разам жывем, разам вучымся.

Мы развітваемся з сябрамі Пятра і выходзім на заводскі двор. Імжыць дробны асенні дождж. У цэхі спяшаюцца рабочыя, на пляцоўцы праходзяць выпрабаванне новенькія трактары. Да нас далучаецца парторг цэха Пётр Сямёнавіч Ежоў, былы камісар партызанскага злучэння. Ён ласкава ўсміхаецца Ісачанку.

— Вы абавязкова напішыце пра нашых хлопцаў, — гаворыць ён. — Добрыя хлопцы сталявары!

Мы павольна ідзем па заводскім двары. Вокны сталеліцейнага цэха асвятляюцца новым барвовым полымем. Міжвольна адчуваеш, як скрыпяць там лябёдкі, паслухмяныя руцэ дзяўчыны, што, быццам ластаўка, прыталася высока каля даху, як напоўголаса перагаварваюцца паміж сабой маладыя сталявары, беручы чарговую плаўку, як павольна рухаецца канвеер, несучы формы з новымі трактарнымі дэталямі... Гэта б'ецца пульс завода, пульс маладога беларускага рабочага класа!



**Першы сакратар Сталінскага райкома КП Беларусі г. Мінска Уладзімір Барысавіч Труноў (справа) уручае электразваршчыку трактарнага завода кандыдату ў члены КПСС Васілю Бядуліну кандыдацкую картку.**

Фото М. Мінковіча.





## На радзіме Адама Міцкевіча

**1798 год... На маленькім, невядомым да таго часу хутары Завоссе, непадалёку ад г. Навагрудка, нарадзіўся адзін з найвялікшых паэтаў свету — Адам Міцкевіч.**

**Жыццё было няласкавым да народнага песняра. Змагаючыся за прагрэсіўныя ідэалы, Міцкевіч вымушаны быў пакінуць радзіму і памёр на чужыне.**

**Уражанні дзіцячых і юнацкіх год, праведзеных на радзіме, паэт пранёс праз усё сваё жыццё. Ён любіў шырокі Нёман, чароўную прыгажосць тутэйшых азёр, лясныя далі і руіны старажытнага замка. Расказы простых людзей пра мінулае родных мясцін выклікалі ў ім творчае натхненне.**

**Спаўняецца сто год з дня смерці паэта. Увесь свет шырока адзначае гэтую дату. Зноў і зноў мы перачытваем хвалюючыя радкі яго вершаў, знаходзячы сярод іх нямала апісанняў цудоўных мясцін Навагрудчыны.**

На здымках: **куткі Навагрудчыны, звязаныя з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча. Зверху ўніз — абеліск у Завоссі, дзе нарадзіўся Адам Міцкевіч; алея на хутары Тугановічы, звязаная з мноствам асабістых перажыванняў паэта; Нёман паблізу сяла Шчорсы, дзе былі напісаны санет «Да Нёмана», пачатак паэмы «Гражына» і іншыя творы; камень у лесе непадалёку ад Тугановічаў, ля якога, на чале з Міцкевічам, збіраліся філарэты,— члены вольналюбівага таварыства; альтанка, утвораная старажытнымі ліпамі ў тугановіцкім парку, дзе Міцкевіч часта праводзіў час; від на гай Міндоўга з Замкавай гары ў Навагрудку.**

**А. ДЗІТЛАЎ.**









# 1855 АДАМ МІЦКЕВІЧ 1955



26-га лістапада 1955 года спаўняецца сто год з дня смерці вялікага польскага паэта-патрыёта Адама Міцкевіча.

Разам з усім працоўным чалавецтвам свету шырока адзначаюць гэтую дату працоўныя Беларусі, на тэрыторыі якой нарадзіўся і правёў свае маленства паэт. Неўзабаве ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйдзе з друку аднатомнік выбраных твораў А. Міцкевіча ў перакладзе на беларускую мову. Ніжэй мы змяшчаем некалькі вершаў паэта.

## Да рускіх сяброў



Вы, ці помніце мяне?.. Я так часта мару
Аб вас, загінуўшых у турмах, у Сібіры.
Вашы чужаземныя успамінаю твары,
Што маюць грамадзянства ў маіх думах шчырых.

Дзе вы сёння? Рылеева рыцарская шыя,
Што як братнюю сціскаў, да слупоў высокіх
Прывязана яна і вісне над Расіяй...
Будзьце праклятыя, на кім кроў сваіх пракокаў!

А рука Бестужэва — воіна, паэта, —
Што не раз працягваў мне, царом-тыранам
Разам з польскаю рукой недзе па-за светам
Ланцугом да тачкі прыкавана.

Іншых мо' сустрэла горшая канчына.
Мо' хто назаўсёды запрадаўся трону
І сябе зняславіў ордэнам і чынам,
Нізка перад катам хіляцца з паклонам.

Ці прадажным языкам яго славіць справы,
Цешыцца з таго, што кроў братоў ліецца,
Злачынствам выхваляецца крывавым,
Подласцю сваёю задаецца.

І калі да вас здалёк песня завітае,
Песня вольная мая, што пяю народу,
Рэхам адгукнецца ў зледзянелым краі, —
Хай, як жураўвы вясну, абвясціць свабоду!

Голас мой пазнаеце!.. Скован кайданамі,
Поўзаў я змяёй ля ног царскіх, гнеўны, злосны,
Ды я таямніц сваіх не хаваў прад вамі,
Толькі з вамі я заўжды быў, як голуб, просты.

Зараз я на цэлы свет горыч выліваю,
Горыч слоў маіх, нібы кубак той атруты.
Я набраў яе з крыві, слёзаў свайго краю:
Спаліць хай яна — не вас, але вашы путы.

Той, хто скардзіцца пачне, — пёс з труслівым сэрцам,
Што ў ашыйнік сам залез, па сваёй ахвоце,
І прывыкшы да яго, з пенаю на роце,
Ён гатовы пакусаць рукі вызваленцам.

Пераклаў з польскай
**К. ЦІТОЎ.**

## Аюдаг



Люблю я з Аюдага пазіраць удалеч,
Як пенныя валы там то адзін з другім
Бушуюць грозна, то як срэбныя снягі
Зіхцяць мільённымі вясёлкамі крышталяў.

Перш разаб'юцца пры штурмшку аб мель на хвалі,
Як гурт кітоў, пакрыюць сушы берагі,
Пасля ўцякаюць прэч, заслаўшы ўслед шляхі
Бліскучым жэмчугам і перламі караляў.

Не раз табе на сэрца, малады паэт,
Так буру хвалявання пачуццё прыгоніць;
Ды толькі ўздымеш ліру, каб здзівіць ёй свет,

А пачуццё ўцячэ у забыцця бяздонне
І песні бессмяротныя пакіне ўслед,
З якіх вякі сплятуць вянок табе на скроні.

Пераклаў з польскай
**М. АУРАМЧЫК.**

## Ода да маладосці



Без душ і сэрцаў, не людзі — шкілеты;
О, маладосць! Дай мне крылы,
Каб я ў рай ляцеў па ласку,
Мёртвы свет пакінуў гэты.
Там, натхнёнасцю сагрэты,
Цуд знайду я, шчасця краску,
Там прамень надзеі мілы.

Хай стары, жыць неахвочы,
Галаў сівы свой схіліўшы над долам,
Змрочным бачыць свет наўкола,
Бо не глядзяць ужо яго вочы.

Запал, маладосць, твой усюды
Па свету прасторах крыляе,
Ты сонцам грамаддзе люду
Пранікні з краю да краю.

Глянь доле, дзе пануе змрок зацята,
Абшар мярзоты і тлі паскуднай:
Зямля там!
Глянь над мёртваю вадою —
Гад, пакрыты шкарлупою,
Сам за плыўца, за стырно і за судна,
Дробныя гоніць і нішчыць стварэнні,
То ўгору ўзнясецца, то — хвалі схавалі;
Ні да гада хваля, ані гад да хвалі,
І як пухір, ён лопне на каменні.
Хто знае, як жыве ён і як жыццё ён згубіць:
Ён самалюбец!..

О, маладосць, нектар жыцця вясною,
Салодшы, як з кім іншым яго дзеліш,
Сэрца тады яшчэ больш узвяселіш,
Калі іх звяжаш ніццю залатою.

Разам, сябры маладыя!
У шчасці для ўсіх — нашы мэты святыя;
Розумам дужыя, у цвеце і сіле,
Разам, сябры маладыя...
І той шчаслівы, хто ў бойцы загінуў,
Лёгшы ў брацкай магіле,
Славу ўздымае краіны;
Разам, сябры маладыя!
Коўзкую маем, крутую дарогу,
Гвалт і стома — рух спыняюць:
Змалку над стомай здабудзь перамогу,
Гвалт-жа гвалтам заўсёды ламаюць.

Той, хто ў калысцы сцяў голаў у Гідры,
Знішча ў юнацтве Кентаўры,
Зможа ў пекла ахвяру выдраць,
Пойдзе да неба па лаўры.

Зрокам сігнуўшы над горы, даліны,
Ламай, чаго розум не зломіць, упарта.
О, маладосць! Смелы ўзлёт твой арліны
І грому падобны удар твой.

Плячо ў плячо! Бясконцымі радамі
Зямную глыбу апражам,
Душы і думкі з'еднаем разам,
Каб палымнець над шляхамі!..
Далей, глыба! З асноў струхлелых
Цябе штурхнем кірункам новым,
Згадаеш ты свой дзень вясновы,
Як скінеш струп'е кары спляснелай.

Там, у прасцягах начы, няладу
Стыхіі ў шале і непакоры,
Гучыць «хай будзе», і тым загадам
Свет рэчаў стаў, навек адзіны;
Шуміць віхор, цякуць глыбіны,
Блакіт высокі аззялі зоры.

Ноч чалавецтва ляжыць яшчэ глуха,
Жыцця стыхіі яшчэ ў змаганні.
Вось агонь любві вяшчуе:
Скрозь — чаканне прыйсця духа,
Юнасць зачне яго і ўзгадуе,
А дружба здзейсніць яго еднанне.

Крышацца крыгі лёду,
Прымхі знікаюць, як цені.
Вітаем зару свабоды,
За ёю — сонца збавення!

Пераклалі з польскай
**А. ВЯЛЮГІН і С. ДЗЯРГАЙ.**

## Да Нёмана



Нёман, родны мой Нёман! Празрыстай вадою
Ты абмываў мне калісьці малому далоні,
Плыў па табе я, пакінуўшы родныя гоні,
У землях далёкіх шукаць свайму сэрцу спакою.

Бераг высокі, пакрыты расістай травою;
Тут Лаура фіялкамі ўквечвала скроні,
Мілы вобраз яе ў тваім чыстым улонні
Муціў я не раз гарачай юнацкай слязою.

Нёман, рака мая! Дзе тыя даўнія хвалі?
Дзе тое шчасце? Лепшыя нашы намеры?
Светласць дзяцінства, поўная раданай веры?

Дзе ён, бурлівы парыў мой у светлыя далі?
Дзе вы, Лаура, сябры? Не адчыняюцца дзверы.
Усё прамінула, жыццё толькі слёз не забрала.

Пераклаў з польскай
**Ю. ГАУРУК.**





# ПАД ДУХАВУЮ МУЗЫКУ

**ВІКТАР ДАЙЛІДА**

**Апавяданне**

Мал. А. Волкава.

Малады пісьменнік комсамолец Віктар Дайліда нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Славінск на Случчыне. У 1953 годзе ён скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, цяпер працуе выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Брэсцкай вобласці і аднačасова навучаецца завочна ў Мінскім педінстытуце. Першае апавяданне В. Дайліды было надрукавана ў 1953 годзе ў зборніку «На сонечных сцежках». Ніжэй друкуецца новае апавяданне маладога аўтара.

Не ведаю, як у вас, а ў нас, на Случчыне, вяселлі гуляюць толькі пад духавую музыку. Калі няма ў вёсцы сваіх музыкаў, малады, звычайна, наймае іх у суседнім калгасе. Прыедуць Чапліцкія Антоны (так называюць духавы аркестр, які славіцца на Случчыне), грымнуць, уязджаючы ў вуліцу, «Развітанне славянкі», — і ажыве вёска, зазвініць вясёлымі галасамі, песнямі, смехам. Колькі клопатаў дзяўчатам і хлопцам! З самай раніцы ў нядзелю дзяўчаты, павыбіраўшы з печаў амаль усё вуголле, прасуюць хусткі, сукенкі, заплятаюць косы, наладжваюць адна другой завіўкі — некаторыя специяльнай прыладай, падобнай на звычайныя нажніцы, некаторыя проста вязальнымі пруткамі. А хлопцы падстрыгаюцца, чысцяць боты. І эх ты, доля мая!.. Якое ажыўленне! І люблю-ж я гэтыя вяселлі ў вёсках на Случчыне. Вось як успомню цяпер, дык, здаецца, паехаў-бы дамоў ды так прытупнуў-бы на чыім-небудзь вяселлі, каб аж падэшвы ў ботах паадставалі...

Дзяўчаты апранутыя ў стракатыя сукенкі, хлопцы ў святочных гарнітурах. І ва ўсіх на тварах усмешкі, радасць.

Крыху пазней сходзіцца моладзь суседніх вёсак. Падышоўшы да агародаў, дзяўчаты, як-бы незнарок, аддзяляюцца ад хлопцаў і выпраўляюць іх уперад, у разведку, а самі за вішняком папраўляюць уборы, а пасля, пабраўшыся пад рукі, ідуць роўным радком, наколькі дазваляе шырыня вуліцы. А вуліца ў нашай вёсцы шырокая-шырокая... Увойдуць дзяўчаты ў вёску ды калі заспяваюць песню — і сам ты не свой тады робішся, і сэрца напоўніцца бадзёрасцю, энергічней заб'ецца ў грудзях, і нібы ты прыкметна расцеш, як на дражджах. А дзянёк пагодны, ясны...

Сярожа седзячы за штурвалам камбайна, бачыць, як ідуць дзяўчаты групамі, чуе іх песні, і яго рукі цвярдзей сціскаюць штурвал, мускулы напружваюцца, а галава горда ўзнімаецца вышэй і, каб не падкачаць перад імі, ён зухавата разварочваецца, урэзваецца хедэрам у густое, з жоўтымі сцябламі жыта... І плыве, плыве палявы карабель далёка-далёка, аж за небакрай. Малацільны апарат працуе ледзь чутна завываючы, ды кружацца крыллі, нахіляючы каласы. І сам Сярожа таксама пачынае спяваць.

Да камбайна пад'язджае сярожаў сябра Санька Лемеш. Ён адвозіць у свіран збожжа. Невысокі ростам, без шапкі, падстрыжаны пад бокс, Санька задзірае ўверх галаву, і ў яго на твары з'яўляецца ўсмешка.

— Што, брат, працуем? — крычыць ён да Сярожы і гэтым якбы хоча сказаць: правільна, так і трэба.

За гулам камбайна Сярожа не чуе. Ён спыняе машыну, а Санька падганяе каня да бункера, стараючыся, каб скрыня стала якраз у патрэбнае месца. Конь моцна сепае, а Санька нацягвае лейцы, упіраецца нагамі, спыняючы каня, і, калі воз становіцца там, дзе трэба, ён падкідае каню травы, а сам ідзе да Сярожы.

— Ты нешта, здаецца, казаў? — пытае той, дастаючы папяросы.

Санька адказвае не адразу. Ён працягвае руку, каб узяць папяросу, нязграбна прыкурвае, бо, наогул, Лемеш не курыць, і гаворыць:

— Я-ж кажу, што мы працуем, брат, а там хлопцы ўсіх дзяўчат разбяруць. Тваёй яшчэ няма, але хутка прыдзе.

— А адкуль ты ведаеш, што прыдзе? — Сярожа пераступае з нагі на нагу.

— Ведаю... Па гадзінніку...

Санька закасвае рукаў і глядзіць на компас, прымацаваны ў яго на левай руцэ замест сапраўднага гадзінніка.

— Роўна ў тры ноль-ноль будзе тут як тут, — дадае ён, стрымліваючы ўсмешку.

Сярожа смяецца, а Лемеш ужо рыхтуецца да наступнага жарту. Без жартаў Санька наогул не жыве. Весела яму ці сумна, у яго заўсёды на твары ўсмешка. Санька садзіцца на зямлю, падкурчвае ногі, смешна пацягвае папяросу, хуценька выцірае ад дыму слёзы на вачах і працягвае:

— Мне цікава, Сяргей, чаму ты сабе выбраў дзеўку-свінарку?

— От дзівак! Якая розніца? Абы чалавек харошы, абы душа была прыгожая, — Сярожа прымае пытанне ўсур'ёз і, зазлаваўшы, незадаволена кідае недакураную папяросу. — Паглядзім, якую ты сабе выбераш.

— Хто? Я?.. Я выберу. Я ўжо выбраў! Пятнаццаць хвілін таму назад. Еду я, значыцца, у скрыні і чую: «Малады чалавек, падвязіце, калі ласка, у сваім фаэтоне». Я—зірк: стаіць яна, апранутая ў розныя там крэпжаржэты. Галоўка набок ледзь-ледзь нахіленая, у валасах розныя дрындулькі, розныя баранайчкі з іх выраблены. Э... нічога сабе, бачу — арыгінальная! Я сюды-туды, саломкі ёй падкінуў, пасадзіў ззаду, як ксяндза якога, а сам уперад ціснуся і скоса пазіраю на яе рукі, значыцца. Эх, і рукі-ж — золата! Пальчыкі тоненькія-тоненькія і мякенькія, як порхавачкі, востранькія, як восці. Ну, думаю, вось дзе маё шчасце. Вылупіў вочы і гляджу на яе. А пасля і заспяваў: «Если нравится нам красавица, никуда от нас не уйдёт». Тады яна гаворыць: «А ў нас не так спяваюць...» «А як у вас, будзьце ласкавы,— кажу.—Ды дзе гэта ў вас?» «У нас, гаворыць, у горадзе, не так». — І заспявала. І так заспявала, што ў мяне спачатку і язык адняло і дух забіла, а пасля, так занудзіла, так заскрабло пад лыжачкай, што і цяпер у сябе не магу прыйсці.

Сярожа гучна рагатаў, разумеючы, што такога выпадку не магло быць, бо Санька за сваё жыццё можа ні разу наогул і з дзяўчынай не размаўляў, не тое, каб там за пальцы кратаў яшчэ такую лялька. Але хлопец, у душы праклінаючы сваю сарамлівасць, ужо языком многа дзяўчат пакахаў, ды не абы якіх, а адменных прыгажунь і разумніц. Ён так захапіўся сваім расказам, што не зважаў на тое, слухае Сярожа яго ці не, і ўсё працягваў:

— Дарогаю мы, значыцца, разгаварыліся. Яна, аказваецца, у цырульні працуе розныя завіўкі там вырабляе. Эх, як ажанюся — ахнеш! Толькі працаваць у цырульні я ёй не дазволю. Будзе яна ў мяне свіней гадаваць. Я тады папяросу ў зубы і буду назіраць, як яна карыты чысціць тымі тоненькімі пальчыкамі. А сам скажу: сала любіш — значыць, дзейнічай. А яна, мабыць-такі сала любіць, бо сыценькая, як памідор. Дык мы, значыцца, даехалі да хаты Спірыдона Галавешкі, а яна і кажа: «Суніміце, малады чалавек, тут свой фаэтон, мне трэба сыйсці». «Калі ласка, калі ласка,»—адказваю. Спыняю каня, дапамагаю злезці, зняць чамаданы, гляджу — Спірыдон выскаквае з хаты і крычыць: «Дачушка мая... прыехала...» Я прыглядаюся. Дык гэта-ж Маня Спірыдонава, тая, што з табой дзесяць класаў канчала. «Хай-жа ты здарова будзь, крычу, Маня! Як-жа я цябе не пазнаў!» А яна, што ты думаеш, надзьмулася, як мыш на крупы, ды як секане: «Каму Маня, а ка-

му Марыя Спірыдонаўна». І тыцкае мне рубель. Я тады: «Што вы, што вы, злітуйцеся.» Дастаю дзесятку і гавару: «Вось вам, калі ласка, за тое, што злезлі». А сам па кані ды ходу. Хай ты здарова будзь...

Сярожа ўсхопліваецца з зямлі і, зразумеўшы, што Санька расказвае рэальны выпадак, пытае:

— Дык што, сапраўды Маня прыехала?

— Прыехала. Я-ж табе кажу. Уга, не пазнаеш. Я-ж яе са станцыі падвозіў. Ну, каб ведаў, што яна будзе мне рубель даваць, ох, і правёз-бы я яе...

У Сярожы многа думак роіцца ў галаве. Ён не любіць Маню, але радуецца, што яна прыехала, бо тут ёсць свайго роду адна акалічнасць, якая прымушае яго радавацца. Справа ў тым, што сёння на вяселлі гуляе закройшчык швейнай арцелі Ясь Шына, стройны хлопец, адзіны сынок у бацькоў, па мянушцы «бастонавы спекулянт». У яго заўсёды поўны кашалёк грошай. Толькі дзяўчыны ён сабе ніяк не дабярэ. І вось кідаецца казлом-бараном то да адной, то да другой. Да Мані Галавешкі піша пісьмы, абяцае ёй залатыя горы, бастон «дастае», а бацькі ягоныя дамагаюцца, каб ён браў з суседняй вёскі свінарку Насцю. Але Насця і ў той бок не глядзіць, гоніць з хаты. Цяпер, калі Сяроха даведаўся, што прыехала Маня, ён радаваўся, што вечарам спакойна можа з Насцяй пагуляць, і ніхто яго не будзе турбаваць, ніхто не будзе падслухоўваць іх размову.

Насыпаўшы скрыню збожжам, Санька ад'язджае ў вёску, паабяцаўшы прывезці з вяселля кавалак караваю і «апошнія паведамленні», а Сярожа становіцца на «капітанскі» мосцік і пускае машыну ў ход. Сонца паліць: аж зацягнулася яно ад гарачыні мутнаватаю смугою. Каб не «мухамор» зверху, спаліцца можна. На даляглядзе пераліваецца гарачае паветра, і дзесьці на ўзгорку пыліць дарога. Сярожа скідае рубашку і выцірае з твару пот. Пыл і мякіна прыліпаюць да мокрага цела, але Сярожа ёмка сядзіць і не зважае на спёку. А дарога на ўзгорку пыліць. Клубы пылу ўсё бліжэй і бліжэй. «Мусіць, брыгадзір едзе?», — думае Сярожа, заўважыўшы, што нехта едзе на матацыкле насустрач. Сярожа пад'язджае да дарогі і на завароце прыпыняе камбайн. І тут яму ўсё становіцца ясным. На матацыкле спераду сядзіць Ясь Шына, а ззаду Насця. Так, яго Насця, уся запыленая, і не глядзіць нават на камбайн. «Дык вось яно што... На бастон, значыць, пагналася. А што гаварыла, што абяцала»...

Сярожу становіцца яшчэ гарачэй. Камбайн неяк рыўком зноў рушыў наперад, а рукі ў Сяргея так і слабеюць, так і апускаюцца, і сумныя думкі, як хмары, плывуць чарадою. Кінуць-бы ўсю гэтую работу ды гуляць, як людзі, на вяселлі, не глытаць тут пылу і не пячыся на сонцы. Што з гэтага? Ці не хопіць будных дзён, каб яшчэ і ў нядзелю працаваць? Вунь гэты прахвост на матацыкле раз'язджае, а я што? Быў-бы я на вяселлі, то так-бы не здарылася, не вазіў-бы ён яе перад людзьмі... Эх, дурань я і больш нічога! Ну, што-ж там; калі брыгадзір папрасіў... Чаму-ж спекулянта ніхто не папросіць? Вось выеду ў канец поля, заглушу машыну, а там хоць вол травы не еш...

І Сярожа, нават не даехаўшы да канца поля, спыняе камбайн. Плюе са злосці, і, узлезшы на бункер выпростваецца на ўвесь свой высокі рост. Перад вачыма ў яго рассцілаецца бязмежнае поле. У другой брыгадзе, каля Дуброўкі, таксама плыве камбайн, на маленькім трактары-цегачы звозяць у кучы салому, а за дарогай на «ХТЗ» нехта арэ. Да яго на матацыкле паімчаў брыгадзір трактарнай брыгады. У полі вялікае ажыўленне. І ад думкі кінуць работу ў Сярожы непрыемна становіцца на душы. Змахваючы з твару пот, Сярожа як-бы адганяе гэтыя думкі прэч. Тым больш, што ўжо новыя, светлыя заступаюць на месца першых. А хіба-ж я адзін такі? Хіба-ж я адзін працую? І брыгадзір, ноч не спаўшы, на нагах, і ўсе трактарысты, усе камбайнеры працуюць... Жніво! Самы разгар работы. Ды, па сутнасці, пры чым тут Насця да яго працы? Насця сваю работу парабіла. І свінні ў яе дагледжаны. І, увогуле, яна не павінна-б здрадзіць... Не, яна не здрадзіць! А здрадзіць — яе справа. А працаваць усё-ж трэба.

Сярожу сорамна становіцца, што ён з-за глупства хацеў кінуць работу. Ён успамінае ўчарашняе выступленне брыгадзіра трактарнай брыгады на сходзе механізатараў, і рука яго міжвольна намацвае комсамольскі білет, Сярожа зноў вышэй узнімае галаву, на душы ў яго яснее, і ён нават пачыху пачынае спяваць. Спачатку мелодыя ўзнікае павольна, пасля яна паступова нарастае, мацнее, і вось ужо на ўвесь палетак гучыць шырокая і звонкая песня. А камбайн па полі ўсё ходзіць і ходзіць. Калі напаўняецца збожжам бункер і прыязджае Санька, Сярожа не траціць многа часу на размовы. Цяпер у яго мэта адна: да вечара скончыць увесь палетак. Хай тады паглядзяць усе, як чыста, хораша зжата. І плошча гэтага ўчастка пятнаццаць гектараў, — значыць, норма амаль у два разы.

Сонца спускаецца ніжэй, косыя яго промні ўжо не так пякуць, як у абед, і матор працуе без перагрэву, звініць, як пчала. Час ляціць, а сонца ўсё ніжэй і ніжэй. Ды, нарэшце, яно і зусім ужо нізка. А на палетку адна толькі грыва жыта. Сярожа зжынае і выганяе камбайн на дарогу і, задраўшы ў камбайна хедэр, на другой хуткасці едзе ў вёску. Ён часова забыўся пра асабістыя крыўды, едзе шпарка, з выглядам переможца, горда ўзняўшы галаву, як салдат з вайны, атрымаўшы перамогу.

Музыкі якраз ужо разыходзіліся. Яны заўважылі на камбайне Сяргея і зноў ускінулі ўгару трубы. Грымнулі марш, крышку сышлі з дарогі, каб даць камбайну «зялёную вуліцу». А Сярожа і сам не свой, але сядзіць за штурвалам горды і шчаслівы, і, усім усміхаючыся, едзе сваёй дарогай. Матор пяе, і толькі капніцель ззаду камбайна калышацца, як трамвай на пароварце. І невядома прысутным, каму тут аддаецца лепшы гонар: ці маладым, якія цяпер ніякавата стаяць каля плоту, ці гасцям, якія раз'язджаюцца дамоў, ці камбайнеру Сярожы, які з вышыні камбайна аглядае ўсіх і спыняе машыну толькі тады, калі заўважае на дарозе брыгадзіра, запыленага і стомленага.

— Ну, як справы? — пытае той.

— Парадак, — адказвае Сярожа, — скончыў увесь палетак.

Падыходзіць Насця. Яна няёмка сябе адчувае, бо ведае, жанчыны яе абгавораць, але гэта яе не страшыць. Яна чуе, што Сярожа скончыў увесь палетак. А брыгадзір — хітры: адыходзіць ад камбайна і за Сяргея дзякуе музыкам. А Сяргей гаворыць:

— Ну, як, Насцечка?

— Што?

І абое ўсміхаюцца. Насця глядзіць на яго так міла. Глядзіць і ўздыхае невядома чаго. Стракатая шаўковая сукенка яе ўздрыгвае, а ў вачах сінія іскаркі. І нібы хочуць сказаць яе ясныя вочы: мілы мой, харошы мой Сярожа! Як чакала я цябе і як цяпер мне лёгка на сэрцы. Але хіба-ж так можна сказаць? Ну, і маўчаць-жа нельга, бо і Сярожа чамусьці таксама маўчыць. Тады Насця гаворыць:

— Ой, Сярожа, навіной я табе не пахвалілася.



## ПРАЗ ТРЫ ГАДЫ

**У 1952 годзе ў калгасе імя 22 верасня было створана звяно па вырошчванню тытуню. Праўленне калгаса прызначыла звенняй Эдварду Ваяводскую.**

**Вопыту ў дзяўчыны не было ніякага. Як вырошчваць расаду? Як дагдядаць тытунь? Гэтыя пытанні заўсёды ўзнікалі перад ёю.**

**На дапамогу прышлі кнігі. Звенявая чытала многа брашур аб вырошчванні тытуню. Па іе прапанове парнікі абклалі гноем, каб цеплыня лепш трымалася. Расаду пасеялі на дзён сем раней, чым рабілася дагэтуль.**

**У першы год звяно сабрала па дзесяць цэнтнераў тытуню з гектара. Эдварда Ваяводская і яе таварышкі атрымалі па 1000—1500 рублёў грошай і па два пуды цукру.**

**Даўно пераможты першыя няўдачы і сумненні. Маладыя тытуняводы звяна, якое ўзначальвае комсамолка Эдварда Ваяводская, з году ў год дамагаюцца высокага ўраджаю. У мінулым годзе яны сабралі па 20 цэнтнераў тытунёвай сыравіны з кожнага гектара, за што ўдастоіліся права ўдзелу на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы.**

**Нягледзячы на неспрыяльную вясну, сёлета звяно атрымала яшчэ большы ўраджай. Кожны гектар, засеяны тытунём, дасць 16—17 тысяч рублёў прыбытку. Члены звяна на працадні разам з дадатковай аплатай атрымаюць па пяць-шэсць тысяч рублёў, не лічачы збожжа, бульбы, гародніны.**

Л. РУЦАЛЕНКА.

Сапоцкінскі раён
Гродзенскай вобласці.

— Якой? — пытае ён.

— Прэмію мне далі за добрую работу.

І яны смяюцца, весела, як дзеці.

Пасля яны ідуць да сярожавай хаты, а людзі глядзяць на іх і любуюцца! «Прыгожая пара...»

Сярожа адчувае сябе добра: ногі гэтыя дык самі ў скокі ідуць. Людзі глядзяць за кожным рухам, а ногі такія лёгкія, што не прыходзіцца іх падымаць, хоць і памлелі яны за дзень. І ў душы — сапраўдная музыка. Не ідзе ён, а нібы ляціць. І радасна, і хочацца спяваць, і, здаецца, бягом бегбы далёка-далёка...

— Ой, Сярожа, а мне Шына так надакучыў сёння, што ледзь я ад яго адчапілася. Прыстаў, едзем на вяселле і ўсё. Тут столькі пылу, а ён — едзем. Прыехалі, дык ён і дыхнуць не дае, ходзіць за мной увесь час, а Маня Галавешка плача горкімі слязьмі. Але я ўжо з ім разлічылася канчаткова. Вось хаця-б к табе не прыставаў, — непакоіцца Насця. — Ён-жа п'яны сягоння, дык гаварыў, што хоча набіць цябе вечарам.

— Што ты?.. — смяецца Сярожа. — Гэта ён страшыць толькі. Нічога ў яго не выйдзе. У мяне-ж рабочыя рукі...

— Я ведаю, Сярожа, але ты хаця з ім не займайся.

— Ды што ты, Насцечка, пакінь аб гэтым. Нашто-ж ён мне? З такімі, як ён, трэба весці барацьбу іншым шляхам. Такія яшчэ сустракаюцца, вось з такімі мы і будзем змагацца. Вазьмі хоць-бы Маня Галавешка. Сябравалі-ж калісь, разам вучылася з намі, а цяпер хто яна?

— А цяпер яна жонка Шыны. І хутка хрысціны будуць гуляць, ад жаночых вачэй не схаваеш.

— Праўда? — здзівіўся Сярожа.

І тут, адкуль ні вазьміся, выскачыў Санька.

— Іменна праўда, — усклікнуў ён, выбегшы наперад. — Зімою, а трэцяй гадзіне дня наступнага года, будзем хрысціны спраўляць...

Сказаў і паглядзеў на свой «гадзіннік».

Сярожа аж жахнуўся.

— Чаго ты тут лазіш? — ускрыкнуў ён, спалохаўшыся.

Сярожа жартам трасе Саньку за каўнер, а пасля пакідае яго з Насцяй на вуліцы і сам выбіраецца на музыку, — апранаючыся хутка, як вайсковец. Яны ўтрох ідуць туды, дзе пад музыку кружацца пары і чуваць маладыя бадзёрыя песні.

Санька марыць уголас аб тым, што на танцах выбера сабе харошую дзяўчыну, і не свінарку, а якую-небудзь з чырвонымі губамі і тоненькімі пальчыкамі. Марыць, а сам тайком, з найвялікшай асцярожнасцю, пазірае на свінарку Насцю гэтак хораша. Але аб гэтым ніхто не будзе ведаць — ніколі-ніколі...

А музыка грыміць і грыміць — духавая, калгасная музыка. Проста на вуліцы.

Дзяўчаты з хлопцамі сядзяць на лаўках, пад ліпамі, пасеўшы цесна-цесна. А вечар цёплы і ціхі. Толькі месяц пазірае з-за хмар, і, саромеючыся перад электрычным святлом, як Санька перад дзяўчатамі, зноў хаваецца за хмары. А вяселле ідзе сваім парадкам.

Не ведаю, можа ў вас і не так, а ў нас, на Случчыне, іменна гэтак.

# УРОКІ



На занятках у слясарнай майстэрні.

# ПРАЦЫ І МАЙСТЭРСТВА

У гістарычных рашэннях XIX з'езду партыі вызначаны шляхі для пераходу да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі і ажыццяўлення політэхнічнага навучання. Перадавыя школы і настаўнікі многае робяць для таго, каб наблізіць выкладанне асноў навук да практыкі, прывіць вучням карысныя навыкі і ўменні, якія неабходныя ім у жыцці, у практычнай дзейнасці.

Сёлета зроблены новы, вялікі крок у падрыхтоўцы школьнікаў да працы на прадпрыемствах, у калгасах і МТС. Заняткі ў школах праводзяцца па новых вучэбных планах і праграмах. Малодшыя школьнікі займаюцца ручной працай, вучні V — VII класаў — практычнымі работамі ў школьных майстэрнях і на доследных участках; для вучняў VIII—X класаў уведзены практыкумы па сельскай гаспадарцы, машыназнаўству, электратэхніцы.

У майстэрнях, на прышкольных участках, у тэхнічных і юннацкіх гуртках вучні замацоўваюць і пашыраюць тэарэтычныя веды, на практыцы знаёмяцца з асновамі вытворчасці, вучацца валодаць інструментам, набываюць спрыт і ўменне сваімі рукамі рабіць мадэлі, прыборы, кіраваць трактарам і аўтамабілем.

Захапляюча і цікава праходзяць урокі працы, заняткі і практыкум у Мінскай сярэдняй школе № 5. З дапамогай руплівых шэфаў — мінскіх аўтазаводцаў — тут абсталявана школьная майстэрня, у ёй створаны ўсе ўмовы для плённых і цікавых заняткаў.

У асобным, прасторным пакоі — сталярня. На чатырох варштатах можа займацца група вучняў. У шафе, на паліцах, у парадку раскладзены інструмент — пілы, рубанкі, стамескі, лінейкі, цыркулі — усё неабходнае для работы. З вучнямі займаецца камсамолец І. Смольскі. Ён яшчэ сам нядаўна вучыўся, але цяпер мае ўжо сталую спецыяльнасць мадэльшчыка на аўтазаводзе і з ахвотай перадае свае веды малодшым сябрам.

Спадабаліся рабятам урокі маладога настаўніка. Тыя, хто займаўся ў сталярні ў мінулым годзе, ужо могуць пахваліцца, што навучыліся майстраваць! Юныя ўмельцы зрабілі табурэткі, рэйкі для геаграфічных карт, указкі, адрамантавалі школьныя парты.



Комсамолец Віктар Гіравенка рамантуе вентылятар.

**Майстар-інструктар Г. Жыгала знаёміць вучняў VIII «А» класа з чарцяжамі дэталей.**



У верасні ў сталярню пачалі хадзіць на заняткі пяцікласнікі. З захапленнем яны стругаюць, пілуюць, навучаюцца майстэрству рабіць з дрэва розныя патрэбныя рэчы. Няхай яны яшчэ не ўмеюць так спрытна валодаць рубанкам, лучкоўкай, як, напрыклад, шасцікласніца Галіна Трацяк. Але нічога — пройдзе час, і пяцікласнікі пакажуць сябе!..

Шмат карыснага і цікавага знаходзяць для сябе вучні ў слясарна-механічным аддзяленні. Тут устаноўлены чатыры металарэжучыя і металаапрацоўчыя станкі; на слясарных варштатах — ціскі і іншыя прыстасаванні, што неабходны ў працы слесара. Хапае ў слясарні і інструменту. Згодна раскладу, прыходзяць сюды вучні і пад кіраўніцтвам майстра-інструктара Г. Жыгалы навучаюцца працаваць на станках, сякуць і апрацоўваюць метал, чытаюць чарцяжы. Як вядома, нельга зрабіцца добрым токарам ці слесарам, не навучыўшыся як мае быць разбірацца ў чарцяжах.

Новыя праграмы патрабуюць, каб выпускнікі сярэдняй школы мелі пэўныя веды па машыназнаўству і электратэхніцы, навучыліся кіраваць трактарам ці аўтамабілем. Гэта патрабаванне паспяхова ажыццяўляецца ў школе № 5. Практыкум па аўтамабільнай справе з дзевяцікласнікамі вядзе інжынер-канструктар аўтазавода Л. Школьнік, які здолеў захапіць рабят, прывіць ім любоў да тэхнікі. Дзевяцікласнікі з такой стараннасцю займаюцца аўтамабільнай справай, што можна сказаць: з іх многія будуць механікамі, умелымі важакамі тэхнікі.

**Галіна Трацяк за работай.**



**Юныя вышывальшчыцы III «А» класа.** Злева направа: **Галя Іванова, Тоня Міхайлава і Света Камлюк.**



**Выдатніца вучобы — вучаніца VIII «А» класа Маргарыта Цюрына апрацоўвае метал.**



Апрача прадугледжаных вучэбнай праграмай гадзін, школьнікі займаюцца грамадска-карысінай працай у розных тэхнічных гуртках, на школьным доследным участку. Іменна ў гуртках, у працэсе практычных заняткаў, выхоўваюцца юныя тэхнікі, радыёаматары, мадэлісты. Вось вучань VIII «Б» класа Віктар Гіравенка. Займаючыся ў гуртку юных электратэхнікаў, ён моцна палюбіў гэтую справу і, калі патрэбна, можа адрамантаваць электрапрыбор не горш за сапраўднага электраманцёра.

Школьнікі палюбілі гурткі «Умелыя рукі», вышыванне, кройкі, юннатаў.

У паспяховым ажыццяўленні політэхнічнага навучання калектыву школы № 5 карысную дапамогу аказваюць аўтазаводцы. Яны не абмежаваліся толькі тым, што дапамаглі стварыць майстэрню, але і вызначылі сваіх спецыялістаў для арганізацыі працоўных заняткаў. У школе, на вечарах і зборах лепшыя механікі, слесары, ліцейшчыкі выступаюць з расказамі аб сваёй прафесіі, аб навінах тэхнікі. Для школьнікаў часта арганізоўваюцца вытворчыя экскурсіі ў цэхі завода.

У працы нараджаецца майстэрства, гартуецца сталасць. Фабрыкам і заводам, калгасам і саўгасам патрэбны маладыя ўмелыя рукі. Калі ў маленстве, са школьных год, атрымаеш моцную працоўную загартоўку, зможаш правільна вызначыць сваё месца ў жыцці, знайсці сваё прызванне.

**Фотанарыс Ал. ВЕЧАРКОВА і С. ЧЫРЭШКІНА.**



**У сталярні. Вучань VI класа Эдуард Ваўчок рамантуе табурэт.**

# ГУКІ, ЯКІХ МЫ НЕ ЧУЕМ

Гукамі мы называем ваганні паветра, якія паўтараюцца пэўную колькасць разоў у секунду і якія ўздзейнічаюць на наш слых. Чалавечае вуха здольна ўспрыймаць гукі з частатой ад 15 да 20 000 ваганняў у секунду. А што, калі частата будзе большай? Такога гуку, вядома, мы не пачуем. Але ёсць цэлы рад прыбораў, якія здольны гэтыя ваганні ўспрыймаць. А ваганні могуць быць з частатой у сотні тысяч і нават мільёны ваганняў у секунду. Ваганні такой частаты і носяць назву ультрагукавых ваганняў, ці ультрагукаў.

Ультрагук высокай частаты валодае шэрагам цікавейшых уласцівасцей, якія рэзка адрозніваюцца ад уласцівасцей звычайных гукаў.

Як атрымліваюць ультрагук?

Акружаючыя нас цвёрдыя целы фізіка падзяляе на аморфныя і крышталічныя. Да першых адносяцца целы, у якіх малекулы размешчаны хаатычна, без усялякага парадку (воск, парафін, шкло, пластмасы). Да другіх адносяцца целы, малекулы якіх размешчаны ў строгім і характэрным для кожнага рэчыва парадку. Да іх адносяцца большасць солей, металы і г. д.

Малекулы солей складаюцца з атамаў розных элементаў, прычым атамы ў іх электрычна зараджаны (іянізаваны). Прасцейшай-малекулай з'яўляецца малекула паваранай солі, якая складаецца з дадатнага іёна натрыя і адмоўнага іёна хлору.




Малекулы іншых солей маюць больш складаную будову, але і ў іх, як і ў паваранай солі, з аднаго боку размяшчаюцца дадатна зараджаныя часцінкі, а з другога — адмоўна зараджаныя. Такая малекула атрымала назву дыполя. Уявім сабе пласцінку, выразаную з крышталю якой-небудзь солі, так, як паказана на гэтым малюнку.



Калі цяпер гэтую пласцінку размясціць паміж двума металічнымі пласцінкамі, да якіх падключаны электрычны ток (іх называюць электродамі), то ў сувязі са зменай становішча дыполяў і павелічэннем адлегласці паміж імі, гэтая пласцінка падоўжыцца.

Калі электрычныя зарады з абкладак зняць, дыполі зоймуць ранейшае становішча, і пласцінка будзе мець свой ранейшы памер. Калі на абкладкі падаваць электрычнае напружанне шмат разоў у секунду (да некалькіх мільёнаў!), то пласцінка, у адпаведнасці з гэтым, спачатку будзе павялічвацца, а затым вяртацца да ранейшай даўжыні. Пры гэтым яна дасць акаляючаму паветру столькі штуршкоў у секунду, колькі разоў яна падоўжыцца. У паветры ўзнікнуць ультрагукавыя хвалі.

Рэчывы, якія здольны значна змяняць свае памеры пад уздзеяннем электрычнага поля, называюцца сегнеэлектрыкамі. Да іх належаць сегнетава соль, кварц і некаторыя іншыя. Варта заўважыць, што «значным» павелічэннем памераў лічыцца павелічэнне на мільённыя долі міліметра.




Возьмем адпаведным чынам выразаную кварцавую пласцінку, змесцім яе паміж двума электродамі, падключанымі да электрагенератара высокай частаты, апусцім у пасудзіну з маслам—і прасцейшая ультрагукавая ўстаноўка гатова.

Уключым яе. Што гэта такое? Масла адразу закіпела. Над кварцавай пласцінкай паверхня яго бурліць, кроплі кіпячага масла падскокваюць на вышыню 10—12 сантыметраў. У той час пасудзіна, у якой закіпела масла, застаецца халоднай.

Устаноўлена, што ў вадкасці, у якой распаўсюджваецца ультрагук, узнікае поле павышанага ціску. На паверхні ціск можа дасягнуць 10 атмасфер, унутры вадкасці — да дзесяткаў тысяч атмасфер. Гэта не памылка!

Ультрагукі адрозніваюцца ад гукаў нізкай частаты адной важнай асаблівасцю — яны могуць распаўсюджвацца, не рассейваючыся, вузкім пучком, як праменні пражэктара. Вялікі ультрагукавы прыбор можна зрабіць наступным чынам. Набор кварцавых пласцінак аднолькавай таўшчыні змяшчаецца паміж двума сталёвымі плітамі. Яны служаць электродамі. Ультрагук будзе распаўсюджвацца тут перпендыкулярна да паверхні пліты. Дасягнуўшы перашкоды, ультрагукавыя хвалі адаб'юцца ад яе і затым рэгіструюцца адпаведнымі прыборамі.

Калі такую ўстаноўку абсталяваць на караблі, яна дасць магчымасць з вялікай дакладнасцю вызначаць глыбіню мора. Для вызначэння глыбіні патрэбна хуткасць гуку ў вадзе (1500 метраў) памножыць на палову часу, які прайшоў ад падачы сігналу да яго прыёму. На гэтым прынцыпе ў сучасны момант працуюць ультрагукавыя ўстаноўкі, якія беспераппынна адзначаюць змяненні глыбіні мора ў напрамку руху судна.

Зусім нечакана падобнае выкарыстанне ультрагуку выяўлена ў прыродзе. Ультрагукавым лакатарам, аказваецца, карыстаюцца лятучыя мышы. Вядома, што лятучая мыш, нават пазбаўленая зроку, вельмі лёгка арыентуецца ў прасторы. Сляпая лятучая мыш аблятае нацягнуты ў яе на шляху дрот. Тут справа ў тым, што горла ў лятучай мышы здольнае вымаўляць, а вуха ўспрыймаць ваганні значна больш высокай частаты, чым тыя, якія мы можам адчуць. Лятучая мыш вельмі дакладна ўлаўлівае час паміж падачай сігналу і яго зваротам, такім чынам дасканала вызначаючы адлегласць да перашкоды, ад якой адбіўся ультрагук.

Ультрагук мае здольнасць, вядома, часткова адбіваючыся, пранікаць скрозь цвёрдыя целы. Гэта выкарыстоўваецца ў тэхніцы для выяўлення дэфектаў у металічных вырабах.

Устаноўка для ультрагукавай дэфекталогіі складаецца з крыніцы і прыёмніка ультрагуку, паміж якімі змяшчаецца даследуемы прадмет. Калі ў даследуемай дэталі ўнутры маецца пустата (ракавіна), то ад крыніцы ультрагуку да прыёмніка дойдзе вельмі нязначная колькасць гукавой энергіі, бо ў дадзеным выпадку будзе вялікая колькасць адбіваючых гук паверхняў. Калі-б у дэталі не было ракавіны, то ўсе праменні дасягнулі-б прыёмніка.




Ультрагукавая дэфекталогія дае магчымасць вельмі хутка і дакладна праверыць вялікую колькасць дэталей. Прасоўваючы дэфектаскоп, напрыклад, уздоўж рэйкі, у ёй можна выявіць дробныя трэшчыны, нябачныя простым вокам.

Калі змясціць у моцны ультрагукавы паток руку, то яна будзе апякацца. Дробныя жывёлінкі, рыбы, насякомыя, якія трапляюць ва ультрагукавы паток, гінуць за некалькі хвілін. Устаноўлена таксама, што трапляючы ў гэты паток мікраарганізмы гінуць на працягу зусім кароткага часу. Гэта дае магчымасць выкарыстаць ультрагук пры кансерваванні прадуктаў. У запячатаных банках кансервы абпраменьваюцца ультрагукам і затым захоўваюцца, як звычайныя. Абпраменены ультрагукам кансервы маюць тую перавагу, што іх вырабляюць без нагрэву, а таму іх харчовыя і смакавыя якасці не губляюцца.

Абпраменьванне ультрагукам можа замяніць нагрэў малака пры пастэрызацыі.

Вядома, што атрымаць сумесь вады з маслам ці вады з ртуццю вельмі цяжка. Ніякае перамешванне ці ўзбоўтванне не дае жаданых вынікаў. А такія сумесі (эмульсіі) часта патрэбныя ў тэхніцы. Іх атрымліваюць з дапамогай ультрагукаў.

У сучасны момант удалося стварыць сціральныя машыны без тручыхся частак. Змешчаныя ў іх рэчы не выціраюцца і не псуюцца. Такая сціральная машына ўяўляе сабою бак, у крышцы якога знаходзіцца ультрагукавая ўстаноўка. Ультрагук, праходзячы скрозь таўшчыню залітай вадою бялізны, прымушае часцінкі матэрыялу вібрыраваць з вялікай частатой. Пры гэтым наліпшы на яго бруд аддзяляецца і застаецца ў вадзе.

Вучэнне аб ультрагуку—маладая, з вялікай перспектывай галіна прыкладной фізікі. Зараз у нашай краіне і за мяжой над вывучэннем уласцівасцей ультрагуку працуе шмат навукова-даследчых лабараторый.

Якія-ж перспектывы прымянення ультрагуку ў недалёкай будучыні?

Зараз дасканала вывучаецца пытанне аб пашырэнні выкарыстання ультрагуку там, дзе ён прымяняецца. У прыватнасці, неабходна ўказаць на тое, што ўльтрагук знаходзіць усё большае прымяненне пры вызначэнні адлегласцей.

Вынаходства радыёлакацыі ніколькі не пашкодзіла прымяненню ультрагуку. Справа ў тым, што радыёлакацыя зручная пры вызначэнні значных адлегласцей. Калі-ж адлегласці невялікія, скажам, некалькі дзесяткаў метраў, то найбольш зручна выкарыстоўваць электрагукавыя прыборы. Мы зможам уявіць сабе ў недалёкім будучым прыбор, які будзе дакладна вызначаць адлегласць аўтамабіля ад якой-небудзь перашкоды і будзе аўтаматычна спыняць яго, калі гэтая адлегласць акажацца менш устаноўленага мінімуму.

Можна з упэўненасцю сказаць, што развіццё навукі і тэхнікі ў хуткім часе знойдзе для ультрагукаў мноства самых рознастайных і цікавых прымяненняў.

**І. РАТНЕР,**
**выкладчык матэматыкі Мінскага тэхнікума лёгкай прамысловасці**



Беларускі дзяржаўны універсітэт. Студэнты, якія прыехалі вучыцца з братняй Польшчы. Сядзяць: Надзя Мукасей, Шыман Раманчук і Вера Дронь. Стаяць — Вера Паўлоўска, Эдуард Гжандзеля, Люба Філіпік і Зося Грыц.

Фото С. Чырэшкіна.

## Сябры з братняй Польшчы

Эдуард Гжандзеля, які прыехаў вучыцца да нас ва універсітэт, неяк расказаў, што мару пабыць у Савецкім Саюзе абудзіў у яго бацька яшчэ ў раннім дзяцінстве. Бацька Эдуарда працаваў на заводзе і заўсёды з захапленнем расказваў аб жыцці ў савецкай краіне. Шкада толькі, што бацька не дажыў да таго светлага дня, калі яго сын быў пасланы на вучобу ў Беларускі універсітэт. Ён загінуў у фашысцкім лагеры.

Пяты год навучаецца Эдуард Гжандзеля ва універсітэце. Ён авалодаў рускай мовай, як сваёй роднай. Ён вывучыў рускую, зарубежную, беларускую літаратуры.

У сценах нашага універсітэта вучыцца не адзін толькі Эдуард Гжандзеля. У нашу студэнцкую сям'ю ўвайшлі і многія іншыя польскія сябры. Усе яны — дзеці сялян і рабочых, усе яны — не маглі і марыць аб набыцці вышэйшай адукацыі ва ўмовах буржуазнай Польшчы.

Студэнты І-га курса Вера Паўлоўска, Надзя Мукасей, Люба Філіпік, Шыман Раманчук расказваюць пра тое, як моцна яны хваляваліся, падаўшы заявы з просьбай пасляць іх вучыцца ў СССР.

— Ці знойдуць нас вартымі? — гэтае пытанне непакоіла кожнага.

Іх жаданне было задаволена. Цяпер усе яны — студэнты аддзялення беларускай мовы і літаратуры БДУ.

У братняй Польшчы, у прыватнасці на Беласточчыне, жыве вялікая колькасць беларусаў. Там адкрыты беларускія школы. Міністэрства асветы Польшчы з мэтай умацавання выкладчыцкіх кадраў для беларускіх школ у краіне, для падняцця выкладання ў гэтых школах на вышэйшы ўзровень, паслала ў Савецкі Саюз студэнтаў, каб яны ў вышэйшых навучальных установах Беларусі дасканала вывучылі беларускую мову, літаратуру і сталі высокакваліфікаванымі спецыялістамі.

Дзелячыся сваімі ўражаннямі ад экскурсій па Маскве, Мінску, Шыман Раманчук расказвае, што ён і яго землякі пабывалі на спектаклі ў Беларускім Дзяржаўным Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Сябры з Польшчы вельмі задаволены тым, што нашы студэнты аказваюць ім усялякую падтрымку і дапамогу. Вера Паўлоўска расказала, напрыклад, што камсамольскі сход І-га курса пастанавіў дапамагаць сваім сябрам з Польшчы ў вывучэнні мовы і літаратуры.

Пяты год займаецца на біялагічным факультэце студэнт Базыль Чэчуга. На працягу чатырох год вучобы ва універсітэце ён дабіўся выдатных поспехаў па ўсіх дысцыплінах. Яшчэ з ІІІ-га курса Чэчуга працуе над тэмай «Дзеянне гумаснага рэчыва на зоапланктон»... Багаты матэрыял, сабраны ім на працягу некалькіх год на Нарачанскай сістэме азёр, глыбокія тэарэтычныя веды студэнта даюць падставу кіраўніку яго дыпломнай работы прафесару Вінбергу спадзявацца, што дыпломная работа Б. Чэчугі будзе абаронена на выдатна.

Студэнт V курса філфака Э. Гжандзеля распрацоўвае ў сваёй дыпломнай рабоце тэму барацьбы з фашызмам па раманах І. Эрэнбурга. Студэнтка Вера Дронь у дыпломнай рабоце прасочвае агульныя граматычныя з'явы ў польскай і рускай мовах.

На перааддыпломнай практыцы збіраюць матэрыялы студэнты геафака Юзвюк і Семянюк. У наступным годзе яны вернуцца на радзіму, каб разведваць яе прыродныя багацці.

За некалькі год вучобы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце польскія сябры зрадніліся з універсітэтам. Яны актыўна ўдзельнічаюць у студэнцкім жыцці. Мікола Тарасевіч (студэнт V-га курса хімфака) неаднаразова адстойваў спартыўную часць універсітэта па плаванню. Адным з самых актыўных членаў канькабежнай секцыі з'яўляецца выдатніца вучобы, студэнтка філфака Зося Грыц. Яна-ж заўсёды выступае на універсітэцкіх вечарах, як удзельнік мастацкай самадзейнасці.

Цікавым жыццём жыве польская моладзь у Беларускім дзяржаўным універсітэце.

**Арсень ЛІС,**
**студэнт V курса БДУ.**

# АТРЫМАЎШЫ АТЭСТАТ СТАЛАСЦІ...

**А. АСІПЕНКА**

Даўно адзвінелі песнямі выпускныя школьныя вечары, прайшла экзаменацыйная гарачка, улеглася і забылася радасць ад весткі аб залічэнні ў інстытут, апраснела горыч няўдачы ў тых, хто не дабраўшы аднаго-двух балаў, застаўся па-за сценамі навучальных устаноў. Цяпер ужо можна падбіць рахункі, шчыра пагаварыць пра тое, што не перастае хваляваць моладзь.

У нас нямала ёсць такіх людзей, якія не заўважаюць тых перамен, што адбыліся ў нашай краіне, не ўмеюць або не хочуць глядзець наперад, а жывуць толькі сённяшнім днём і горш за ўсё, калі такія людзі дзе-ні-дзе сустракаюцца сярод кіруючых работнікаў, камандзіраў прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і МТС. Тады ад іх абыякавасці, лянасці думкі вельмі церпіць любая высокародная справа.

Іменна гэтым і тлумачыцца, на мой погляд, недахопы па ўладкаванню на работу многіх выпускнікоў сярэдніх школ.

Гэта было даўно, можа гадоў трыццаць назад. Тады ў маёй вёсцы, ды і ва ўсіх навакольных вёсках не было ніводнага чалавека з асветай вышэй чатырох класаў. І вось наш сусед першы адправіў свайго сына вучыцца ў Віцебск ў пяты клас сямігодкі. Пра гэта гаварылі ў вёсцы, як пра незвычайную справу. А калі Пятрусь, — так звалі хлопчыка, — прыехаў летам на канікулы і ішоў па вуліцы, дарослыя мужчыны віталіся з ім, як з роўным, і помню, колькі зайздрасці выклікала гэта ў нас, хлапчукоў. Навукі, якія вывучаў у горадзе Пятрусь, здаваліся тады нам недасягальнымі, а сам Пятрусь — вельмі вучоным чалавекам.

Цяпер-жа ў вёсцы пра такіх «вучоных» людзей, якім некалі быў Пятрусь, гавораць, што яны нічога не ведаюць, бо ў кожнай сям'і ёсць свае інжынеры, аграномы, урачы з вышэйшай, радавыя калгаснікі з сярэдняй асветай. Людзей з сярэдняй і вышэйшай асветай становіцца ўсё больш і больш. Чалавек з сярэдняй асветай — справа цяпер звычайная. Між тым, розніца паміж пісьменным чалавекам тых год і сённяшнім выпускніком дзесяцігодкі вельмі вялікая, і не толькі таму, што ў цяперашняга выпускніка намнога больш ведаў. Калі раней, у дваццатых гадах, на вёсцы цаніўся кожны чалавек з пачатковай асветай, дык цяпер у многа разоў больш павінен цаніцца чалавек з сярэдняй асветай, хоць іх з кожным годам робіцца ўсё больш і больш. Вядома, семнаццацігадоваму юнаку або дзяўчыне не патрэбны нянькі. Але гэта не значыць, што ўладкаванне такіх людзей можа пускацца на самацёк.

Атрымліваючы атэстат сталасці, вучань аднэй з школ г. Барысава сказаў:

— Атэстат — самы дарагі дакумент.

— Чаму самы дарагі? — запыталіся ў яго.

— Бо за яго, — адказаў вучань, — заплочана семнаццаць год жыцця.

Відавочна, што за гэтыя семнаццаць год вучань выпеставаў нейкія свае планы, ён не толькі марыў, але і дабіваўся здзяйснення сваіх мар. І вось, атрымаўшы атэстат сталасці, ён упершыню сур'ёзна сутыкнуўся з жыццём і... пацярпеў няўдачу: строгі экзаменатар паставіў яму замест пяцёркі чацвёрку, і ўсе мары рухнулі. Так, прынамсі, здаецца вучню.

Разважаючы сталым розумам, і ўдар гэты не такі ўжо вялікі, бо ў нашай краіне ёсць усе магчымасці найлепшым чынам прымяняць свае веды і здольнасці. Але не так думае той вучань, які пацярпеў крушэнне сваіх планаў. І вось тут на дапамогу яму павінны прыйсці старэйшыя таварышы. Прыйсці не са спачуваннем, а з парадай. Між тым, большасць выпускнікоў сярэдніх школ кінута на волю лёсу.

Але справа не толькі ў гэтым. Падрыхтоўка кожнага вучня ў сярэдняй школе абыходзіцца дзяржаве ў некалькі тысяч рублёў. І зусім натуральна, калі грамадства, савецкі народ чакае ад сваіх выхаванцаў аддачы ў выглядзе карыснай працы па вытворчасці матэрыяльных каштоўнасцей. Гэта — законнае права грамадства. Мы вас вучылі, выхоўвалі семнаццаць год, а цяпер — вы пакажыце свае веды на практыцы. Аднак нельга забываць і другі бок справы — разумнае выкарыстанне выпускнікоў на рабоце. Кожны выпускнік дасць грамадству больш, калі ён будзе выконваць работу, для якой патрэбны яго веды. Нікому не прыдзе ў галаву пасылаць урача перабіраць бульбу, хоць ён гэта і можа рабіць не горш за другіх. Ніхто не пашле юрыста растрасаць гной на полі, хоць ён гэта і ўмее рабіць. Але чаму так нерацыянальна, а падчас злачынна выкарыстоўваюцца веды выпускнікоў?

У Барысаўскім раёне сёлета закончыла сярэднюю школу каля 500 вучняў. Ужо вясной было вядома, што ўсім выпускнікам не давядзецца паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Так яно і атрымалася: у вышэйшыя, сярэднія і спецыяльныя навучальныя ўстановы паступіла каля трыццаці працэнтаў выпускнікоў. Астатнія засталіся дома. Некаторыя з іх (такіх вельмі мала) адразу-ж прыйшлі ў паляводчыя брыгады і пачалі старанна працаваць. Але большасць адседжваецца дома альбо ездзіць у Мінск, спрабуючы ўладзіцца на любую работу. Такія пагардлівыя адносіны маладых людзей да калгаснай вытворчасці, натуральна, выклікаюць абурэнне ў грамадскасці. Калі я запытаўся ў канцылярыі калгаса імя Мічурына аб сёлетніх выпускніках сярэдняй Лошніцкай школы, калгасны бухгалтар, пабарвавеўшы ад гневу, закрычаў:

— Абібокі гэтыя. Навошта яны. Мы іх ведаць не хочам. Няхай школа з імі возіцца.

У словах бухгалтара многа, хоць горкай, але праўды. Лошніцкая школа не падрыхтавала сваіх вучняў да жыцця, выхавала з іх беларучак, людзей, якія цураюцца чарнавой работы. Але ці толькі школа вінаватая? Можна цвёрда сказаць — не.

Хіба не патрэбны калгасу імя Мічурына пісьменныя людзі? Неабходны і вельмі. Патрэбны адукаваныя садаводы, пчаляры, будаўнікі, брыгадзіры, звеннявыя, радысты, учотчыкі, механікі—дзесяткі самых розных спецыяльнасцей, без якіх не можа абысціся сучасная сельская гаспадарка. Гэтыя кадры неабходна каваць не спяшаючыся, рыхтаваць іх з году ў год. Пра гэта павінны думаць праўленне калгаса і яго старшыня т. Чумакоў.

Старшыня калгаса, які далёка глядзіць наперад, напэўна, пачаўбы весці работу з будучымі выпускнікамі яшчэ з восьмага-дзевятага класаў. Ён быў-бы частым госцем у школе, вывучаючы здольнасці і схільнасці сваіх будучых памочнікаў. І тады-б выпускнікі не беглі-б з калгаса. Нажаль, ніхто ў калгасе імя Мічурына пра работу з выпускнікамі не думаў, і ўспомнілі аб тым, што яны існуюць, толькі ў верасні, калі многія з іх, не здаўшы экзаменаў, вярнуліся дамоў. Але і тут, замест таго, каб шчыра, патаварыску пагутарыць з імі, выпускнікоў пачалі «скланяць» на кожным сходзе, як гультаёў, абібокаў.

Ёсць і больш непрыемныя прыклады. У калгасе «Чырвоная зорка» выпускнікоў, якія прыйшлі на работу, сустрэлі кпінамі, насмешкамі, а асобныя брыгадзіры — здзеклівымі адносінамі. Выпускнікоў пасылалі на самыя цяжкія і брудныя работы, стараліся ўсяляк падкрэсліць, што гэта ім не ў школе, што тут іх пісьменнасць непатрэбна, а веданне імі літаратуры не дапаможа раскідаць гной. У выніку выпускнікі перасталі хадзіць на работу.

У верасні раённыя арганізацыі, якія абавязаны былі займацца ўладкаваннем дзесяцікласнікаў на работу, маглі ўжо ведаць, колькі выпускнікоў засталося дома. Але ніхто гэтым не пацікавіўся. Выпускнікі адзін за другім пайшлі ў райком камсамола за парадай. Гэтыя візіты настойліва патрабавалі ад райкома ЛКСМБ склікаць раённы сход выпускнікоў дзесятых класаў, пагутарыць з імі пад душах, проста і шчыра, нічога не ўтойваючы. Аднак на такі сход райком не рашыўся, проста кажучы, ён забаяўся адкрыта пагутарыць з дзесяцікласнікамі, і ўсе іх справы былі перададзены загадчыку аддзела піонераў т. Коласавай. Коласава, у меру сваіх сіл, спрабавала вырашыць справы сама, але хутка і яна і дзесяцікласнікі пераканаліся, што зрабіць нешта значнае такім чынам не ўдасца.

Вядома, сход былых выпускнікоў — справа складаная. Да яго трэба было сур'ёзна рыхтавацца. І тут віна не столькі райкома камсамола, колькі Мінскага абкома ЛКСМБ, які не дапамог правесці такія сходы.

Старшыня калгаса «Зара камунізма» Мікалай Пятровіч Шчурын з крыўдай у голасе скардзіўся на сваіх брыгадзіраў, многія з якіх маюць нізкую асвету, не вучацца і дрэнна выконваюць свае абавязкі.

Разгаварыліся. Аказваецца, у калгасе ёсць два выпускнікі дзесятых класаў( адзін з іх ужо адслужыў у Савецкай Арміі), якія пры невялічкай падрыхтоўцы можна ставіць брыгадзірамі.

У чым справа? Крыху пазней адзін са старшынь калгаса «строга між намі» растлумачыў:

— Усё гэта, дарагі таварыш, вядома. Дзесяцікласнікі — вялікая сіла. Іх трэба смела вылучаць на кіруючыя пасады. Але самі зразумейце, ну што мне скажуць у раёне, калі я заўтра вылучу дзесяцікласніка загадчыкам жывёлагадоўчай фермы. Ды проста яго не зацвердзяць.

Магчыма, што гэтая боязнь маладых кадраў і прыводзіць да таго, што нават у хатах-чытальнях Барысаўскага раёна працуюць людзі з 5—6 класамі асветы, дрэнна спраўляюцца са сваёй работай, а іх баяцца замяніць людзьмі пісьменнымі, адукаванымі.

Варта толькі-б крыху заняцца лёсам дзесяцікласнікаў, і Барысаўскі райвыканком знайшоў-бы для іх прымяненне. Ён знайшоўбы кожнаму выпускніку справу па сэрцу, а калгасам гэта прынесла-б вялікую карысць.

У размове са старшынямі калгасаў, брыгадзірамі, калгаснікамі ўсе згаджаліся, што райвыканком мог-бы без асаблівых цяжкасцей стварыць, нават без адрыву ад вытворчасці, курсы садаводаў, пчаляроў, загадчыкаў ферм і г. д. Ва ўсіх гэтых прафесіях калгасы маюць надзённую патрэбу. Для гэтага толькі патрэбна было правесці некаторую работу сярод дзесяцікласнікаў.

Спасылаюцца, што для гэтага не прадугледжана сродкаў. Але наўрад ці адмовіў-бы Савет Міністраў БССР у фінансаванні такіх важных мерапрыемстваў, як падрыхтоўка высокакваліфікаваных кадраў. Трэба толькі смялей ставіць пытанні.

Кожны верыць у тое, што праз чатыры-пяць год на кіруючых пасадах у калгасах, брыгадзірамі, загадчыкамі ферм, бухгалтарамі, будуць працаваць людзі са спецыяльнай сярэдняй і вышэйшай асветай. Так будзе абавязкова, бо брыгадзір — гэта той-жа начальнік цэха, толькі цэха вельмі складанага. І калі ім па-сапраўднаму кіраваць, дык патрэбна мець добрыя веды і па агранаміі, і па механізацыі, і па бухгалтэрыі. А раз гэта так, дык варта ўжо цяпер рыхтаваць такія кадры. Гэта — вялікая дзяржаўная справа, і над яе вырашэннем варта было-б сур'ёзна падумаць Міністэрству сельскай гаспадаркі БССР. Міністэрства даўно магло-б рашыць пытанне аб расшырэнні сеткі завочнага навучання пры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі і Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце. Гэта ў многім вырашыла-б справу з кадрамі.

Наспеў час вырашыць пытанне і з адкрыццём у радзе гарадоў філіялаў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі па прыёму экзаменаў і кансультацый завочнікаў. Трэба, нарэшце, стварыць аўтарытэт сярэдняму звяну кіруючых кадраў калгасаў і МТС. А гэтага можна дабіцца ў першую чаргу, вылучаючы на пасады брыгадзіраў, загадчыкаў ферм людзей з адпаведнай адукацыяй. Брыгадзіру малапісьменнаму аўтарытэта не створыш.

Кажуць, што ад дзесяцікласнікаў вельмі мала паступае заяў на розныя курсы, якія арганізоўваюцца пры МТС, школах механізацыі і г. д. Але хіба можна так прапагандаваць такія курсы, як гэта робіцца? Міністэрства сельскай гаспадаркі па некалькі разоў змяшчае аб'явы аб наборы ў сельскагаспадарчыя спецыяльныя і сярэднія ўстановы. Гэта, вядома, добра. Але, дзе вы чыталі аб'яву, што пры МТС адкрываюцца курсы камбайнераў павышанай кваліфікацыі?

На працягу дзесяці год вучань рос, развіваў свае веды. Ён не хоча спыняцца на дасягнутым. Ён хоча працаваць, але ў яго павінна быць наглядная перспектыва росту. Тады ён будзе выконваць любую работу. Тады не будзе гэтых уцёкаў у горад.

Але справа не толькі ў гэтым. Справа ў тым, што выхаваўчая работа ў школах усё яшчэ вядзецца па-старому, хоць за апошнія гады адбыліся велізарныя змены. Азнаёмцеся з планамі выхаваўчай работы ў школах. Як мала там мерапрыемстваў па выхаванню ў вучняў любві да простых прафесій. Настаўнікі ўсё яшчэ заахвочваюць вучняў да вучобы перспектывай паступлення ў інстытут, і, калі вучань адказвае, што ён усёроўна не паступіць, настаўнік у большасці выпадкаў бездапаможна пасуе. Настаўнікі, з якімі даводзілася гаварыць у Барысаўскім раёне, адкрыта заяўлялі: «Мы не ведаем, як зараз будаваць сваю выхаваўчую работу, а Міністэрства асветы і яго друкаваныя органы вельмі слаба асвятляюць такія пытанні».

А камсамольскія і піянерскія арганізацыі? Піянерскія зборы ўсё яшчэ далёкія ад патрабаванняў часу. У пагоні за займальнасцю, рамантыкай, увесь час наладжваюцца сустрэчы з лётчыкамі, танкістамі, знатнымі канструктарамі і г. д. А якое звяно вядзе перапіску, напрыклад, з вядомым эксперыментатарам Мальцавым? Хто з піянерскіх работнікаў дадумаўся арганізаваць альбом «Знатныя людзі калгасаў»? На якім камсамольскім сходзе слухаліся пытанні прывіцця любві да сельскагаспадарчых прафесій? А такія пытанні не павінны сыходзіць з парадку дня.

Не толькі выхаваўчая работа, але і вучэбны працэс у школе ўсё яшчэ далёкія ад запатрабаванняў часу. Дырэктар Зембінскай сярэдняй школы Барысаўскага раёна Міхаіл Грыгаравіч Палуяновіч з горыччу расказваў, колькі пакут даводзіцца пераносіць, набываючы неабходныя для майстэрні матэрыялы. Паспрабуйце купіць кілограм цвікоў, малаток, пілку, сякеру, дошкі, фарбу. Банк на гэтыя рэчы грошай не адпускае, бухгалтэрыя рахункаў не прымае. Прыходзіцца ісці на розныя махінацыі.

Такіх невырашаных пытанняў вельмі многа. Яны і з'яўляюцца той прычынай, што многія дзесяцікласнікі, атрымаўшы атэстаты сталасці, адседжваюцца дома. Вырашыць гэтыя пытанні неабходна хутчэй. Гэта — вялікая дзяржаўная справа.

## НОВЫ СТАДЫЁН



З усіх раёнаў Масквы ў Лужнікі, на гарадскую ўскраіну, па закліку гаркома камсамола ідуць маладыя добраахвотнікі. Іх працавітымі рукамі ствараецца новае выдатнае збудаванне сталіцы — буйнейшы ў краіне стадыён. Ён зойме сто восемдзесят гектараў. У цэнтры гэтай плошчы размесціцца галоўная спартыўная арэна, а вакол яе трыбуны на сто тысяч гледачоў.

Пад трыбунамі гледачоў прадугледжаны розныя памяшканні, якія зоймуць чатыры паверхі.

Апрача асноўных збудаванняў, на стадыёне ствараюцца дзіцячы спартыўны гарадок, восем футбольных палёў, два вялікія спартыўныя ядры для лёгкай атлетыкі, 40 валейбольных і баскетбольных пляцовак, 30 пляцовак для тэнісу.

Да Лужнікаў, дзе летам у наступным годзе адбудзецца спартакіяда народаў СССР, пракладваюцца тралейбусныя і аўтобусныя лініі, сюды падводзіцца траса метрапалітэна. Парк, які ствараецца ў новым спартыўным гарадку, зойме амаль палову ўсёй яго тэрыторыі.

Новы стадыён будзе мець самую дасканалую сувязь: аўтаматычную тэлефонную станцыю з тэлефонамі-аўтаматамі, міжгароднімі камутатарамі і кабінамі для міжгародніх перагавораў.

На фото: макет стадыёна ў Лужніках.



**Даўно адгрымелі партызанскія баі, але і цяпер яшчэ калгаснікі ўспамінаюць пра тое, як слаўныя партызаны адстойвалі заваёвы Совецкай улады ад гітлераўскіх полчышчаў.**

**У вёсцы Навінка Ленінскага раёна Брэсцкай вобласці ў час Айчыннай вайны знаходзіўся штаб партызанскага злучэння. Тут напярэдадні вызвалення Беларусі адбыліся крывапралітныя баі. У іх удзельнічалі і В. Шошын, і А. Данілевіч. Цяпер В. Шошын — дырэктар сярэдняй школы, а А. Данілевіч знаходзіцца ў радах Совецкай Арміі. Нядаўна Шошын і Данілевіч, які прыехаў у адпачынак, наведалі месцы былых баёў і расказалі калгаснікам пра змаганне.**

На здымку: **В. Шошын і А. Данілевіч сярод калгаснікаў.**

Фото М. Ананьіна.



# Моладзь у кіно

За пасляваенныя гады кіностудыя «Беларусьфільм» стварыла не так ужо многа мастацкіх фільмаў. Не ўсе яны карысталіся аднолькавым поспехам у гледача. У кінокарцінах, створаных беларускай кіностудыяй, крытыка адзначала самыя рознастайныя недахопы: і замаруджанасць дзеяння, і няўдалае рэжысёрскае вырашэнне, і слабасць сцэнарыя. Былі асобныя ўзлёты, былі і недаравальныя спады. І ўсё-ж некаторыя фільмы жывуць, карыстаюцца поспехам у гледача. Да ліку іх адносяцца фільмы «Канстанцін Заслонаў», «Дзеці партызана» і «Паўлінка».

Зараз на экранах Савецкага Саюза дэманструецца фільм «Несцерка». У друку адзначаліся сур'ёзныя недахопы гэтага фільма. Аднак ёсць у фільме і нямала дадатнага, што выклікала цікавасць да яго ў гледачоў: народны гумар, бязлітасная сатыра на эксплуататараў. Прыгожа зроблены натурныя здымкі.

У новым фільме здымалася некалькі нашых беларускіх акцёраў. Многія з іх ужо ўдзельнічалі ў стварэнні фільмаў раней, некаторыя ўдзельнічаюць упершыню. Але, напэўна, самай адметнай рысай фільма «Несцерка» з'яўляецца ўдзел у ім маладых акцёраў.

Іван Саўкін яшчэ зусім нядаўна вучыўся ў інстытуце кінематаграфіі на акцёрскім аддзяленні. У фільме ён выконвае ролю маладога хлапца Юрася.

Лілія Драздова ўжо вядома беларускаму гледачу па папярэдніх фільмах. У новым фільме яна іграе ролю вясковай дзяўчыны Насці, горача закаханай у Юрася.

У стварэнні фільма ўдзельнічаў асістэнтам рэжысёра Нікалай Літус, студэнт рэжысёрскага аддзялення інстытута кінематаграфіі. «Несцерка» — яго дыпломная работа.

Зусім маленькую ролю пастушка выконвае вучань адной з мінскіх школ Гена Іванчанка.

На здымках (зверху ўніз): **рабочы момант: артысты І. Саўкін, Л. Драздова і асістэнт рэжысёра Н. Літус; Юрась (арт. І. Саўкін) і Насця (арт. Л. Драздова); пастушок (вучань Г. Іванчанка) і Несцерка (арт. Б. Генкін); Юрась на кірмашы.**

Фото В. Комава.







# Размова
# АБ ПЕРШАЙ КНІЗЕ

**Г. ШЧАРБАТАЎ**




Хто з пісьменнікаў не памятае той хвалюючай мінуты, калі атрымаў у выдавецтве першую сваю кнігу! Новая кніга пачала сваё жыццё! Яна пойдзе да чытачоў, і хто ведае, што чакае яе — шумны поспех ці сумнае стаянне на адной з паліц кнігарні. Разумеючы высокія запатрабаванні савецкага чытача, кожны пісьменнік імкнецца ствараць кнігі, якія сталі-б лепшымі сябрамі нашых людзей, дапамагалі ім у жыцці і ў працы. Высокае пачуццё адказнасці перад народам — характэрнейшая рыса савецкіх пісьменнікаў.

У нашу літаратуру ідзе моладзь. Многія маладыя пісьменнікі ясна ўсведамляюць усю адказнасць сваёй літаратурнай дзейнасці: яны строгія і патрабавальныя да кожнага радка сваіх твораў. Яны імкнуцца адкрываць чытачу нешта новае, шукаюць сваіх арыгінальных мастацкіх сродкаў, настойліва працуюць над мовай. Аднак ёсць і такія маладыя літаратары, якія мала думаюць аб чытачу. Гэта можна бачыць на прыкладзе першых кніг некаторых маладых паэтаў.

Нядаўна Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала першыя зборнікі вершаў Петруся Макаля, Эдуарда Валасевіча і Сцяпана Гаўрусёва— розныя і па памеру і па мастацкіх якасцях кнігі. Аўтары іх — маладыя нашы сучаснікі — услаўляюць сённяшні дзень савецкай краіны, гераічную працу свайго народа. Многа вершаў прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны, дружбе народаў Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі. Вялікае месца ў зборніках займаюць вершы аб каханні.

Як-жа маладыя паэты раскрываюць усе гэтыя тэмы? Што новага ўносяць у беларускую савецкую паэзію?

Найбольшую цікавасць выклікае кніга П. Макаля «Першы след». Прыемна, што паэт знаходзіць самастойнае вырашэнне хвалюючых нас тэм, што ён не збіваецца на трафарэт і перапевы. Вершы П. Макаля вызначаюцца яснасцю задумы, багаццем выяўленчых сродкаў. Яны хвалююць сваёй шчырасцю і маладым запалам. Многія вершы паэта надоўга запамінаюцца. Прачытаеш творы П. Макаля і радуешся, што сустрэўся з імі — яны ўзбагацілі цябе нечым новым. Вось, напрыклад, вершы «Святло» і «Сустрэча з братам». У першым расказваецца аб тым, як хлапчукі бегалі з бляшанкай па вуголле да суседа, «і з вуглёў агонь мы выдзьмувалі». Але гэта толькі запеў. Думка наперадзе. Яна аб тым, як пры святле лучыны «браў старэйшы брат пацёрты томік пра усходніх дарагіх братоў, і святлела ўраз не толькі ў доме, а і на душы у хлапчукоў». Верш канчаецца глыбокай думкай:

Той агонь не гасне прад вачыма,
Хоць ужо нямала дзён прайшло.
Змалку нас само жыццё вучыла,
Як нялёгка здабываць святло.

Паэт умела ўвасабляе ў мастацкіх вобразах сваю задуму: ён паступова раскрывае сілу святла комуністычных ідэй, якія нялёгка здабываліся нашым народам.

Другі верш — «Сустрэча з братам» — таксама ідэйна насычаны. Ён апавядае аб пільнасці савецкіх людзей. Герой верша прыехаў у далёкае Закарпацце, каб сустрэцца з родным братам, які загінуў тут у часе вайны, але навечна застаўся стаяць на мармуровай белай пліце. Схіліўшы галаву, ён перадае паклон герою «ад гэтага квітнеючага края і ад далёкіх гродзенскіх прысад».

А ён рукой нас прывітаць не можа.
Трымае зброю воіна рука,
Бо чуе ён
За морам брэх варожы —
І палец не адводзіць ад курка.

Такіх ідэйна насычаных і дасканалых у мастацкіх адносінах вершаў у зборніку П. Макаля многа. Паэт уносіць у беларускую паэзію свежыя вобразы і адчуванні. І добра зрабіла выдавецтва, што дало магчымасць пазнаёміцца з вершамі маладога паэта шырокаму чытачу.

Ужо сама назва зборніка Эдуарда Валасевіча «Вершы і байкі» паказвае, што ён складзены з твораў розных жанраў. І сапраўды, мы знаходзім тут і вершаваную публіцыстыку, і інтымную лірыку, і байкі, і нават дзіцячыя вершы. Гэта гаворыць аб тым, што паэт шукае ўласнага паэтычнага голасу, і ў гэтым трэба пажадаць яму поспеху. Найбольш плённая праца Эд. Валасевіча ў галіне байкі. Тут бачны назіральнасць паэта, яго ўменне адбіраць з жыцця найбольш істотнае, уменне будаваць кампазіцыю твора. Некаторыя байкі напісаны з сапраўднай вастрынёй, яны нясуць у сабе моцны сатырычны зарад.

Але кніга Эд. Валасевіча намнога-б выйграла, калі-б яна была пазбаўлена мноства шэрых, бясколерных вершаў з ліку публіцыстычных, а таксама альбомных вершаў. Нажаль, аўтар уключыў у зборнік амаль усё, што ім напісана за многа год, нават свае першыя літаратурныя спробы. Таму зборнік разбухнуў, але не набыў ад гэтага большай мастацкай вартасці.

Больш падрабязна хочацца пагаварыць аб зборніку С. Гаўрусёва «Паходныя кастры». Некаторыя вершы яго сведчаць, што паэт умее паэтызаваць з'явы нашай рэчаіснасці. Яны хвалююць чытача свежасцю і непасрэднасцю. Гэта такія вершы, як «Шкляр», «Арка над вакзалам», «Сінявокая балгарка», «Геолаг», «Фата-маргана». Вершы расказваюць аб думах і пачуццях простых савецкіх людзей. Расказ аўтар вядзе не ў агульным плане, а для кожнага верша знаходзіць нейкую канкрэтную дэталь, праз якую раскрывае ўнутраны свет героя. Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца верш «Шкляр». Працуючы, шкляр успамінае жахі вайны і пагібель сваёй дачушкі. Ён не хоча вайны, радуецца мірнай працы, шчасцю людзей. Вельмі да месца тут канцоўка верша:

Іду дамоў. Вячэрняя зара
Не хоча гаснуць на вільготных клёнах.
І весела смяецца дзетвара
З усіх акон, рукой маёй зашклёных.

І ўсё-ж зборнік С. Гаўрусёва вельмі няпоўнацэнны. Большасць вершаў яго не адзначана аўтарскай індывідуальнасцю. Як правіла, гэта — або перапевы вершаў другіх паэтаў, або простыя замалёўкі з трафарэтным вырашэннем тэмы. Можна прывесці некалькі прыкладаў. У вершы «Чырвоны абоз» аўтар расказвае, як пад песню гарманіста гордыя сваёй працай калгаснікі вязуць збожжа дзяржаве. Галоўная думка верша «Сады» дадзена ў радку: «Сады мы садзілі, друг, і ўраджай збіраць мы будзем». Верш «Выстаўка» апавядае аб тым, як калгаснікі імкнуцца вырасціць ураджай, які хоць увесь вязі на паказ. Вядома, гэта ўсё правільныя думкі, але-ж яны чытачу даўно знаёмыя. Якая-ж, у такім разе, мэта вершаў С. Гаўрусёва?

Малады паэт мала працуе над дасканаласцю вершаў. Вобразная сістэма яго твораў вельмі бедная, думка часам выказваецца недарэчна. Вясёлка, гром, бура, рэха, вецер — вось тыя вобразы, якія праходзяць амаль праз усе вершы. Аднастайная і рытміка твораў.

Жаданне маладых пісьменнікаў хутчэй выдаць першы зборнік сваіх твораў, і пры гэтым як мага таўсцейшы, зразумелае. Але Дзяржаўнае выдавецтва не заўсёды павінна лічыцца з гэтым жаданнем. Яно павінна, перш чым выдаваць, дапамагчы маладому аўтару падрыхтаваць зборнік як належыць. І тут паўстае пытанне аб адказнасці рэдактара. Рэдактарамі названых кніг з'яўляюцца беларускія паэты П. Панчанка, К. Кірэенка, Р. Няхай. Як відаць, з найбольшай адказнасцю аднёсся да даручанай справы рэдактар зборніка П. Макаля «Першы след» П. Панчанка. Ён адмёў усё дробязнае і нецікавае ў творчасці маладога пісьменніка. Нажаль, такой патрабавальнасці не праявілі іншыя рэдактары. Рэдагуючы зборнік Эд. Валасевіча «Вершы і байкі», Рыгор Няхай не праявіў неабходнай строгасці. У выніку ў кнізе не адчуваецца рэдактарская рука.

Калі параўнаць некаторыя вершы С. Гаўрусёва, што былі раней надрукаваны ў часопісах, з тымі-ж вершамі ў зборніку, дык выяўляецца, што рэдактар зборніка К. Кірэенка дабіўся іх палепшання, мастацкай адшліфаванасці, шмат слабых вершаў выключыў са зборніка. Але трэба было-б параіць С. Гаўрусёву яшчэ больш папрацаваць над сваім першым зборнікам.

Вялікую адказнасць за выданне першых кніг нясе Саюз пісьменнікаў Беларусі. У творчых секцыях Саюза пісьменнікаў неабходна абавязкова наладжваць абмеркаванне кожнай першай кнігі і, зразумела, перад выданнем яе. Бо абмяркоўванне, напрыклад, зборніка Эд. Валасевіча пасля таго, як ён быў выдадзены, не дало амаль ніякай карысці.

Занадта рэдка збіраецца і мастацкі савет Дзяржаўнага выдавецтва, каб абмеркаваць першую кнігу. Калектыўная-ж гутарка аб тым ці іншым творы маладога пісьменніка можа аказацца вельмі карыснай для яе аўтара і для яе чытача.

# Жышшёвы прынцып

Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ

Апавяданне

Мал. Г. Паплаўскага.

Заставалася хвілін дзесяць да канца работы. Рахункавод Алена Іванаўна, ці, як называлі яе за малады ўзрост, Леначка, ужо наводзіла прыгажосць свайму твару, а Ольга Паўлаўна— бухгалтар — падбівала на лічыльніках апошнія рахункі.

У кутку, каля акна, за шырокім сталом, над раскрытай рахунковай кнігай сядзеў Андрэй Сцяпанавіч — галоўны бухгалтар установы. Ён глядзеў на слупкі лічбаў і думаў аб нечым. Гэта заўважыла эканаміст Зіна Міронаўна. Іх сталы былі насупраць, і, як толькі яна разгіналася ад папер, позірк яе адразу спыняўся на постаці галоўбуха. Некаторы час Зіна Міронаўна моўчкі назірала за сваім суседам, потым наважыла вывесці яго з глыбокай задуменнасці.

— Вы нешта заклапочаны, Андрэй Сцяпанавіч? Ці не думаеце, куды дзяваць дваццаць пяць тысяч, якія вы заўтра выйграеце?

Галоўбух страсянуў галавою, нібы адганяў надакучлівыя думкі, і адразу-ж, без замінкі, адказаў на пытанне:

— Яны ўжо ў мяне размеркаваны: першую палову вам за добрае пажаданне, а другую сабе на гаспадарчыя выдаткі.

Зіна Міронаўна моўчкі выйшла з-за стала і працягнула руку галоўбуху.

— Спадзяюся, вы будзеце гаспадаром слова таксама і на гэты раз?

— Можаце быць упэўнены. У даным выпадку мне яго лягчэй за ўсё стрымаць. Я ні разу яшчэ пасля вайны не выйграў.

Не выпускаючы рукі галоўбуха з сваёй, Зіна Міронаўна звярнулася да Алены Іванаўны і Ольгі Паўлаўны:

— Чулі?.. Пры вас дадзена абяцанне!..

— Чулі, — адказалі тыя. А Ольга Паўлаўна нават крыху яшчэ і папракнула свайго начальніка:

— Лёгка вы спісалі, Андрэй Сцяпанавіч, такую суму з свайго крэдыту.

— Тое, чаго няма, лягчэй за ўсё спісваць.

— Няма, але будзе. Вось пабачыце... — засмяялася Зіна Міронаўна звонкім смехам.

— Дай божа чутае бачыць, — і Андрэй Сцяпанавіч паціснуў руку Зіны Міронаўны.

На гэты вясёлы гоман увайшоў дырэктар. Ледзь адчыніў ён дзверы, як усе раптоўна змоўклі і ўглыбіліся ў свае паперы. Дырэктар прайшоўся між сталоў, уважліва паглядзеў у твар Леначцы, тая пачырванела ўся і мітуслівa пачала перабіраць паперы.

Усе ведалі дырэктарскую строгасць, і нікому не хацелася выслухоўваць надакучлівыя заўвагі. Але ён усё-ж не вытрымаў, і хоць пры адыходзе, але напомніў пра сябе начальніцкім тонам:

— Шумна нешта ў вас у рабочы час: нават на калідоры чуеш вашу прысутнасць.

— Васіль Ігнатавіч, у нас толькі што цікавая падзея адбылася, — адказала дырэктару Ольга Паўлаўна і, не чакаючы, пакуль ён стане распытваць, сама расказала, як што было.

— Ну, гэта не так цяжка. Наколькі мне вядома, Андрэй Сцяпанавіч ні разу двухсот рублёў не выйграў, а тут-жа справа ідзе толькі аб дваццаці пяці тысячах...

У гутарку ўмяшалася Зіна Міронаўна:

— А што, калі выйграе? — спытала яна.

Дырэктар развёў рукамі.

— Усё можа стацца. Хто-небудзь павінен выйграць. На гэты раз, магчыма, шчасце напаткае і нашага паважанага Андрэя Сцяпанавіча. Толькі як вы аб гэтым даведаецеся?

Усе пераглянуліся. Наконт гэтага яны не паспелі падумаць—Васіль Ігнатавіч перашкодзіў сваім прыходам. Алена Іванаўна прапанавала было, каб Андрэй Сцяпанавіч прынёс аблігацыі і аддаў на захаванне касіру, але Ольга Паўлаўна не дала ёй дакончыць:

— Ну, Леначка, ты заўсёды што-небудзь смешнае прыдумаеш!

— І нічога смешнага,—пакрыўдзілася Алена Іванаўна. — А як іначай зрабіць?

На пытанне адказаў сам Андрэй Сцяпанавіч:

— Слова чалавека павінна быць даражэй за любыя грошы. У панядзелак прынясу нумары аблігацый — правярайце самі.

Званок абвясціў канец працоўнага дня. У адзін момант калідор загудзеў галасамі. З усіх пакояў паспешліва выходзілі служачыя.

«Гм!.. А цікава ўсё-такі, як зрабіў-бы Андрэй Сцяпанавіч, калі-б сапраўды выйграў гэтую суму», — думаў дырэктар, уваходзячы ў свой кабінет.

Ганна Пятроўна, жонка Андрэя Сцяпанавіча, калі даведалася, што яе муж даў слова падзяліцца выйгрышам, аж рукамі ўспляснула:

— Людцы мае, здурнеў чалавек на старасці год!.. Дальбог, здурнеў! Трэба-ж да такой справы дадумацца! З нейкай там сакатухай спрэчкі заводзіць...

— Ды не лапачы ты, не лапачы!.. — перапыніў жончыну тыраду Андрэй Сцяпанавіч. — Усёроўна мы ніколі не выйгрываем.

— Не выйгрываем, не выйгрываем... — перадражніла яна мужа. — А на гэты раз, паглядзіш, выйграем! Чуе маё сэрца — выйграем. Што тады? Га?.. Што тады?..

— А нічога, вазьму ды аддам палову.

— Сваімі рукамі?.. Столькі грошай?..

— Ну, і што-ж з таго, — адказаў спакойна Андрэй Сцяпанавіч, перапісваючы нумары аблігацый. — Не сваё аддаеш... не зарплату-ж?

За дваццаць пяць гадоў замужаства Ганна Пятроўна добра пазнала характар мужа. Калі ён што сказаў, то гэтак і будзе. Вось таму і агарнулі яе адразу неспакойныя думкі аб тым, як-жа ўсё-такі выкруціцца з недарэчнага становішча. Праз нейкую хвіліну яна перайшла на лагодны тон:

— Ведаеш, Андруша, што?.. Вазьмі ды панапісвай абы-якія нумары. Няхай шукаюць ветру ў полі.

Андрэй Сцяпанавіч прыўзняўся ад стала і з лёгкай усмешкай на твары заўважыў:

— Вучыш мяне, Ганначка, добра... А што, калі напісаныя нумары выйграюць? Тады што?..

Гэтыя словы збянтэжылі Ганну Пятроўну. І сапраўды, можа здарыцца так? Можа. Раптам усё праяснілася ў яе галаве. Ні адзін выназодца, мабыць, не быў узрадаваны так, калі дасягаў мэты, над якой правёў не адну бяссонную ноч. Выхад знойдзены. Ад радасці заірдзеўся твар, забегалі вочы.

— Эх ты, галоўны бухгалтар яшчэ! Да такой рэчы сам не мог дайсці!.. Мне трэба галаву ламаць... Схадзі заўтра ў ашчадную касу ды выпішы нумары, якія даўно выйгралі. Ім і ў галаву не прыдзе правяраць.

— Табе прыйшло, а ім не прыдзе, — строга зірнуў у вочы Андрэй Сцяпанавіч.

Тут ужо Ганна Пятроўна пачала нервавацца: што ні прапануе, усё не тое. Заставаўся апошні варыянт: аблігацыі прададзены і — канец усяму. Няхай скажа, што яна зрабіла гэта. На гэтую прапанову Андрэй Сцяпанавіч адказаў не адразу. Ён дапісаў апошні нумар, падкрэсліў знізу трыма рыскамі слупок лічбаў і, кладучы аблігацыі ў шкатулку, на сваё месца, заўважыў:

— Нічога не выйдзе, галубка. Яны-ж не прадаюцца. Гэта не трохпрацэнтныя. Ды і язык мой не павернецца хлусіць.

Больш Ганна Пятроўна нічога не магла прыдумаць, і злосць разабрала яе да абурэння.

— Ну, дык і рабі, што хочаш, са сваім сумленнем!.. — бразнула дзвярыма і выйшла з дому.

Андрэй Сцяпанавіч палажыў шкатулку ў камоду і сеў вячэраць. «Напэўна, да Насты, да суседкі, пайшла. Пачне скардзіцца на бязглуздага мужа. Няхай сабе». Потым аднёс на кухню пасуду і сеў чытаць «Огонёк». Ён ніколі не мог без хвалявання браць у рукі свежы нумар гэтага часопіса. На яго вачах часопіс рос, маладзеў. З шэрага некалі, з цьмянымі малюнкамі, ён набыў сваю прыгажосць — і знешнюю і ўнутраную. Увагу яго затрымала апавяданне «Жывы медзвяжонак». Чым далей ён чытаў, тым больш выразна паўставаў перад ім вобраз іхняга дырэктара, Васіля Ігнатавіча. Нібы пра яго напісана. «Якраз такі выпадак, — мільганула думка. — А можа пра яго?.. Хто-небудзь расказаў пісьменніку, а той выслухаў яго, прадумаў ды — на паказ! Глядзі, дарагі татка, як сумна з табой сыну. Ён так чакае цябе заўсёды, а ты, як сыч, сядзіш надзьмуўшыся».

Вярнулася Ганна Пятроўна не скора. Андрэй Сцяпанавіч збіраўся ўжо класціся спаць і думаў, што рабіць з дзвярыма — замыкаць ці не, — як увайшла жонка. На дзіва, яна была ласкавая, распытала, ці вячэраў, паслала пасцель.

— Адышла трохі злосць, — усміхнуўся ён.

— Ды тут і злавацъ не было чаго.

— От то-та-ж! А ты адразу дзвярыма бразгаць.

Праз некалькі хвілін Андрэй Сцяпанавіч спаў ужо бесклапотным сном. А жонка доўга не магла заснуць. Яе непакоілі словы суседкі. Заўсёды так: скажа што-небудзь такое, ад чаго потым галава ходарам ходзіць!..

Першай пра выйгрыш даведалася Ольга Паўлаўна. Ёй, як і многім супрацоўнікам Старынкаўскага леспрамгаса, усе гэтыя некалькі дзён да з'яўлення табліцы выйгрышаў, надта хацелася, каб выйграў Андрэй Сцяпанавіч і выйграў іменна дваццаць пяць тысяч. Лічбы замільгалі ў яе вачах, калі палец спыніўся на 023832, № 47, а далей — 25 000. Потым, трохі супакоіўшыся, яна падкрэсліла чарнілам радок у табліцы і хутка выбегла ў другі пакой.

— Глядзіце, вось нумары аблігацый Андрэя Сцяпанавіча... Сама перапісала для цікавасці. А вось яны ў табліцы. Лічба ў лічбу сыходзіцца, — паказвала Ольга Паўлаўна.

Галоўны бухгалтар меў звычку прыходзіць на работу за 5-10 хвілін да званка. Ледзь увайшоў ён сёння ў пакой, як Ольга Паўлаўна, а ўслед за ёю Леначка і Зіна Міронаўна кінуліся яго віншаваць.

— Вось газета... праверце самі... — хвалявалася Ольга Паўлаўна.

— Праверым, праверым, а як-жа, — падзякаваўшы за віншаванне, спакойна адказаў Андрэй Сцяпанавіч.

Ён падыйшоў да свайго крэсла, сеў, дастаў з бакавой кішэні пінжака акуляры, не спяшаючыся выцер хустачкай шкельцы і зірнуў на падкрэсленыя лічбы. Потым дастаў з шуфлядкі «памятны сшытак», у які запісваў усё важнае, што можа спатрэбіцца ў жыцці, адшукаў старонку з перапісанымі нумарамі аблігацый, знайшоў адпаведны падкрэсленаму ў табліцы і здзіўлена акінуў позіркам супрацоўніц. Тыя ўвесь час моўчкі сачылі за кожным яго рухам. «Значыць, праўда», — падумаў галоўбух і ўжо з хваляваннем у голасе прамовіў:

— А я лічыў, жартуеце. Ну, калі так, дык віншую і вас з выйгрышам, — паціснуў ён руку Зіне Міронаўне.

Услед за Андрэем Сцяпанавічам яе павіншавалі Ольга Паўлаўна і Леначка.

Вестка пра выйгрыш умомант абляцела ўсю кантору. Адзін за адным заходзілі супрацоўнікі павіншаваць свайго галоўнага бухгалтара.

Назаўтра здаў ён аблігацыю для адсылкі ў Маскву. За восем дзён, пакуль яна вярнулася з праверкі, шмат чаго было перагаворана. Вельмі-ж незвычайны быў выйгрыш.

Ольга Паўлаўна ўвесь час даводзіла Зіне Міронаўне:

— Не дасць ні рубля. Пабачыш. І на свой жыццёвы прынцып забудзецца. Столькі грошай! Ды ты і сама не лепшая была-б...

Леначка тлумачыла па-іншаму:

— На многае не спадзявайся, а на крэпжаржэтавую сукенку няхай дасць... Не збяднее... — І, папраўляючы перманентную завіўку, дадавала: — Учора такі прыгожы матэрыял прывезлі ў магазін. Кітайскі. Вачэй не адвядзеш!

Зіна Міронаўна спакойна выслухоўвала парады і абыякава адказвала:

— Будзе відаць. Навошта загадзя хвалявацца.

Але калі ў пакоі заставаліся Ольга Паўлаўна з Леначкай, гутарка адразу набывала іншы характар.

— Вось пашчаслівіла! Толькі з інстытута... Месяц не папрацавала яшчэ і такая радасць, — уздыхала Леначка.

— Няўжо яна не падзеліцца з намі, калі Андрэй Сцяпанавіч аддасць ёй тое, што абяцаў. Гэта ўжо будзе з яе боку вялікае свінства. Так магла і я, і ты сказаць... Праўда?.. — выказвала свае думкі Ольга Паўлаўна.

Аднойчы, перад канцом работы, дырэктар выклікаў да сябе галоўнага бухгалтара. Ён доўга гутарыў з ім пра квартальную справаздачнасць, потым непрыкметна перайшоў на асабістае:

— Значыцца, хутка сваё шчасце ў руках адчуваць будзеце, — і пальцамі правай рукі зрабіў так, быццам лічыў імі хрумсткія новенькія грошы.

— Казалі, не пазней дзесятага.

— Та-ак... Ну, а з Зінай Міронаўнай як думаеце?

Галоўбух здзіўлена паглядзеў у твар дырэктара.

— Можаце гаварыць смела. Нас тут двое, — па-змоўніцку папярэдзіў дырэктар.

— Ды я, Васіль Ігнатавіч, і не баюся. Вы мяне ведаеце як гаспадара слова. Адсюль—вывады рабіце самі.

Дырэктар забарабаніў пальцамі па стале.

— Таму я і пытаю, што ведаю вас. Бачыце, выйшла ўсё надта недарэчна. За адну неасцярожную фразу так паплаціцца... Збоку гэта відней. І, па-мойму, калі хочаце падзяліцца сваім шчасцем, дык лепей зрабіць гэта з людзьмі больш блізкімі, ды і меншай сумай... Зіна Міронаўна працуе ў нас, як кажуць, без года тыдзень. Чым вы абавязаны ёй?.. Нічым... У адным пакоі нязручна будзе сядзець? Дык гэта лёгка ўладзіць. Да таго-ж ідзе перагляд штатных адзінак.

Андрэй Сцяпанавіч увесь час адмоўна ківаў галавой.

— Не магу. Мяне абавязваюць перад Зінай Міронаўнай мае жыццёвыя прынцыпы: не ганіся на чужое, будзь гаспадаром слова. З таго часу, як я паціснуў ёй руку, палавіна выйгрышу — не мая.

— А калі ператварыць усё гэта ў жарт? У вас такой думкі не было?..

— Не было і не будзе. З сумленнем, Васіль Ігнатавіч, не жартуюць і не паступаюцца ім. Так ужо выхавала мяне наша савецкая дзяржава.



Раптам дырэктар перамяніўся ў твары: павесялеў, губы расплыліся ўсмешкай, у вачах замільгала жвавасць.

— Гэта ваша асабістая справа — аддаваць ці не. Павінен сказаць па-шчырасці, я надзвычай рады, што ў мяне такі цвёрды на слова галоўбух. — Дырэктар працягнуў руку і, пажадаўшы добрага здароўя, дадаў: — Час і нам ісці дахаты.

У сваім пакоі галоўбух нікога ўжо не застаў. Ён зірнуў на гадзіннік, было без дзесяці сем... «Дзівак-чалавек! Столькі часу змарнаваў. Відаць, выпрабоўваў».

У гэты-ж прыблізна час жонка Андрэя Сцяпанавіча сядзела ў сваёй суседкі Насты і ўжо каторы раз прыкідвала, як лепш зрабіць, каб не выпусціць ні грама «шчасця» з сваіх рук. Ёй усё думалася, ці не дасць цётка Наста нейкай іншай парады, лепшай і дакладнейшай. А Наста, як дзяцел, дзяўбла адно:

— Глядзі, не застанься пры пікавых інтарэсах. Будзь лагодна з ім, а то і гэтых грошай не ўбачыш. Ці не закруціла толькі тая галаву твайму? Ты не глядзі, што ён сорак восем гадоў мае. Старэйшыя за твайго Андрэя з глузду з'язджаюць... А тут разам працуюць... ды такі-ж выйгрыш...

І Ганна Пятроўна не паказвала мужу і выгляду, што яе ўвесь час гняце неспакойная думка. Сама-ж увесь час была як у пекле. «А што, калі ў іх там сапраўды не жартачкі?» — непакоіла яе. І неяк само па сабе ў такія хвіліны прыходзіла ў галаву: «Лепей было-б і не выйгрываць, чым гэтак мучыцца. Жылі на зарплаце ў больш трудныя часы, а цяпер і тым больш жыць можна. Абы толькі ўдваіх быць»...

І калі ў першыя дні яна дакарала мужа за паспешлівае абяцанне, дык цяпер, калі ён затрымаўся ў дырэктара, яе ўстрывожыла зусім іншае. Сустракаючы мужа пасля работы, яна ласкава і разам з тым пільна ўзіралася яму ў вочы, пакуль не даведалася дакладна пасля шматлікіх запытанняў, чаму ён спазніўся.

З ашчаднай касы Андрэй Сцяпанавіч вярнуўся хутка. Ён адразу дастаў з партфеля загорнуты ў газету пакуначак і палажыў на стол Зіне Міронаўне.

— Атрымлівайце сваю частку і спажывайце на мілае здароўе.

Ольга Паўлаўна і Леначка чакалі ўбачыць нейкі падарунак. Калі-ж Зіна Міронаўна разгарнула газету і ў ёй яны ўбачылі пачкі новенькіх крэдытак, аклееных накрыж белымі палоскамі, жанчынам захапіла дыханне.

Спакойна, нібы нічога асаблівага не здарылася, Зіна Міронаўна перабрала кожную пачку, услых падлічыла суму і, акуратна загарнуўшы зноў у газету, палажыла пакуначак на стол галоўбуха.

— Дзякую, Андрэй Сцяпанавіч. І прашу вас забраць іх.

— І не думаю, і не дакрануся, — замахаў рукамі Андрэй Сцяпанавіч.

Тут Леначка не вытрымала:

— Бяры, дурная... Бяры...

— Каробку цукерак магу ўзяць дзеля такой радасці. Нават дарагую, — гаварыла між тым Зіна Міронаўна. — Нам тром купіце яе. Добра?..

— Гэта я магу і са сваёй часткі выйгрышу купіць, — адсоўваў пакуначак у бок Зіны Міронаўны галоўбух.

Ольга Паўлаўна, моцна прытуліўшыся да Зіны Міронаўны, шапнула:

— Я так баялася, думала — ты пагонішся.

А Леначка тым часам дастала з сумачкі кругленькае люстэрка і, падпудроўваючы носік, з пагардай прамовіла:

— Падумаеш, не бачыла я дарагіх цукерак!.. Надта яны мне патрэбныя. Каб на крэпдэшынавую сукенку...

Ольга Паўлаўна і Зіна Міронаўна аж пырснулі ад смеху, убачыўшы скрыўленую, надзьмутую Леначку.

Дома Ганна Пятроўна вельмі здзівілася, калі даведалася ад мужа аб усім, што здарылася.

— А я ўжо згадзілася, што нам будзе толькі палавіна, — ласкава сустрэла яна расказ мужа. — Нават размеркавала, колькі куды. І што яна за жанчына такая ў вас? Другая адразу ўзяла-б... Ты запрасі, Андруша, у госці яе. Гэта-ж я столькі перадумала, столькі перахваляваласе.

— На нядзелю я ўжо запрасіў да сябе сваіх супрацоўнікаў. Будзе і Зіна Міронаўна.

Але ў нядзелю Зіна Міронаўна не прыйшла. Андрэй Сцяпанавіч да апошняй хвіліны не траціў надзеі ўбачыць яе за сваім сталом між запрошаных гасцей, дык так і не дачакаўся. «Што не прышоў дырэктар — гэта зразумела. А вось Зіне Міронаўне можна было і паступіцца на гэты раз сваёй сціпласцю, — разважаў ён у думках, — не так многа было-б ужо гаворкі пра яе, падняслі-б адзін тост ды і ўсё».

А чаму так хацелася Ганне Пятроўне бачыць Зіну Міронаўну да Андрэя Сцяпанавіча так і не дайшло. Сама-ж яна пра свае меркаванні палічыла за лепшае мужу не гаварыць і была вельмі рада, што ўсе трывогі яе былі дарэмныя.





Паліна Бондар.

# Свінарка Паліна Бондар

Пасля заканчэння сямігадовай школы ў роднай вёсцы Паліна Бондар пайшла працаваць на жывёлагадоўчую ферму даглядчыцай свіней.

Увішная і старанная, Паліна адразу заваявала павагу сваіх старэйшых сябровак. Дзяўчыне даручылі спачатку невялікую групу — пяць свінаматак. У першы год яна атрымала ад кожнай свінаматкі па дванаццаць парасят і ўсіх выгадавала.

— На гэтым не спынюся! — заявіла комсамолка. — Выгадую па 18 парасят. Апрача таго, бяруся адкарміць свіней на сала!..

Ісці ўвесь час наперад, не спыняцца на дасягнутым — стала дэвізам маладой свінаркі. Удумліва вывучаючы вопыт перадавых жывёлаводаў, вышукваючы дадатковыя рэзервы, Паліна з году ў год дамагаецца ўсё новых поспехаў у працы. Калі ў мінулым годзе ад кожнай свінаматкі яна выгадавала па 22 парасяці, то сёлета толькі за адзін апарос атрымала па 14—16. За старанную працу ў жывёлагадоўлі комсамолка Паліна Бондар узнагароджана ганаровай граматай ЦК ЛКСМБ.

На жывёлагадоўчую ферму цяпер па закліку комсамольскай арганізацыі прышло новае папаўненне—комсамольцы Ілья Рудаўскі, Анна Сітніца, Паліна Фалеева, Марыя Рудаўская і іншыя. Паліна ахвотна дапамагае новым сябрам, дзеліцца «сакрэтам» сваіх поспехаў.

Маладыя жывёлаводы калгаса «Большэвік» Петрыкаўскага раёна спаборнічаюць за дастойную сустрэчу XX з'езду КПСС. Забяспечыўшы жывёлу рознастайнымі сакавітымі кармамі і канцэнтратамі, яны зараз робяць усё, каб у зімовых умовах дамагчыся новых паказчыкаў у павышэнні прадуктыўнасці калгаснай свінагадоўлі. У першых радах спаборнічаючых ідзе комсамолка Паліна Бондар.

**В. ЧЫМІРКА.**

# Прасцейшыя фотапавелічальнікі

Кожны, хто займаецца фатаграфіяй, і нават той, хто хоць раз пабываў у фоталабараторыі, ведае, які захапляючы занятак пячатанне здымкаў з павелічэннем. Фотааматары нярэдка пазіраюць, як, здавалася-б, зусім нязначны здымак пры павелічэнні робіцца больш цікавым. Пры гэтым могуць быць выпраўленыя і шмат якія кампазіцыйныя памылкі здымка. Павялічаныя адбіткі, апрача таго, маюць і значна большую грамадскую карысць, бо найбольш выкарыстоўваюцца іменна павялічаныя фото. Дошкі пашаны ў калгасах, на прадпрыемствах, рознастайныя выстаўкі, фотаплакаты як вучэбныя дапаможнікі і сродак прапаганды — вось далёка не поўны пералік выкарыстання фото ў грамадскім жыцці.

Наша прамысловасць вырабляе даволі шырокі асартымент фотапавелічальнікаў. Аднак фотааматар можа зрабіць павелічальнік і сам.

Перш за ўсё трэба ведаць, што некаторыя фотаапараты самі з'яўляюцца павелічальнікамі. Гэта — апараты тыпу «Фотакор» і звычайныя павільённыя камеры з мяхамі, якія можна рассоўваць. Прадоўжным памерам павелічэння такім апаратам з'яўляецца памер яго матавага шкла, на якое і робіцца наводка. Рамка з негатывам устанаўліваецца перад аб'ектывам. Крыніцай святла можа быць і дзённае святло. У выпадку выкарыстання электрычнай лямпы трэба, каб яна была малочная або матавая. Пасля ўстаноўкі на рэзкасць рамка з матавым шклом здымаецца, а на яе месца, як пры фатаграфаванні, ставіцца касета. Але на гэты раз, замест пласцінкі, у касету ўстаўляецца ліст фотапаперы. Экспазіцыю трэба рабіць, як пры здымцы, накрыўкай аб'ектыва, затворам або ўключэннем і выключэннем лямпачкі.

Па гэтаму-ж прынцыпу можна самому зрабіць прасцейшы павелічальнік, адзінай фабрычнай дэталлю якога будзе аб'ектыў. Гэты прыбор — фанерная скрынка ў выглядзе ўсечанай піраміды. Знутры яна павінна быць афарбавана чорнай фарбай; звонку, для надання большай акуратнасці і светанепранікальнасці, яе трэба аклеіць чорнай паперай, дэрманцінам або чорнай тоўстай тканінай.




Мал. 1.

Аснова скрынкі «а» (мал. 1) робіцца ў выглядзе накрыўкі, якая павінна ўваходзіць у свае пазы настолькі шчыльна, каб забяспечыць поўную светанепранікальнасць. Унутраны бок гэтай накрыўкі з'яўляецца пры павелічэнні экранам, на які прымацоўваецца ліст фотапаперы. Перагародка «б» патрэбна для ўстаноўкі ў ёй аб'ектыва. Нарэшце, вяршыня скрынкі «в» робіцца ў выглядзе рамкі для негатыва. Шкляныя негатывы проста заціскаюцца плоскімі спружынкамі. Плёнчатыя негатывы трэба укладваць паміж двух шкел. Рамка з негатывам закрываецца накрыўкай, і зараджаны такім чынам апарат выносяць да крыніцы святла (дзённага або электрычнага). Экспазіцыя адбываецца зняццем накрыўкі з негатыўнай рамкі

Такі апарат дае толькі адзін памер павелічэння, на які ён разлічаны. Таму фотааматару трэба, практычна, рабіць іх некалькіх памераў.

Даем памеры некалькіх такіх павелічальнікаў:

| Памеры негатыва (см) | Фармат павелічэння (см) | Фокусная адлегласць аб'ектыва (см) | Каэфіцыент павелічэння | Адлегласць ад негатыва да аб'ектыва (см) | Праэкцыйная адлегласць (см) |
|---|---|---|---|---|---|
| 6×6 | 10×15 | 7,5 | 2,5 | 10,5 | 26,25 |
| 6×6 | 13×18 | 7,5 | 3,0 | 10,0 | 30,0 |
| 2,4×3,6 | 9×12 | 5,0 | 3,5 | 6,43 | 22,5 |
| 2,4×3,6 | 10×15 | 5,0 | 4,0 | 6,25 | 25,0 |
| 2,4×3,6 | 13×18 | 5,0 | 5,0 | 6,0 | 30,0 |

Істотным удасканаленнем гэтага павелічальніка з'явіцца выраб для яго асновы другой накрыўкі па прынцыпу пабудовы задняй сценкі фотаапарата «Фотакор», — г. зн. з матавым шклом. Гэта адразу дазволіць кадрыраваць здымак для пячатання — выбіраць толькі найбольш цікавую яго частку і не падкладваць фотапаперу пад усё, што праэктуецца з негатыва.

Для пераходу да вырабу павелічальніка з пераменным каэфіцыентам павелічэння зрабіце наступны вопыт.

У сваім фотаапараце змясціце негатыў на месца касеты (або на месца негатыўнай ленты, калі апарат здымае на шырокую плёнку). Паднясіце апарат да любой крыніцы святла і папрабуйце зрабіць так, каб святло ад гэтай крыніцы падала толькі на негатыў і не асвятляла-б прастору перад аб'ектывам. Затым вазьміце любы белы экран (ліст кардону або фанеры з наклеенай на яе белай паперай) і павольна падносьце яго да аб'ектыва. Вы ўбачыце, як на экране праэктуецца адбітак негатыва. Пры гэтым на якойсьці адпаведнай адлегласці экрана ад аб'ектыва гэты адбітак будзе рэзкі. Пакіньце ў гэтым становішчы экран і змяніце становішча аб'ектыва адносна негатыва, як гэта робіцца пры наводцы на рэзкасць пры здымцы. Вы заўважыце, што рэзкасць адбітку на экране знікла і для яго ўзнаўлення патрэбна перамясціць экран у бок аб'ектыва або ад яго. Пры гэтым памер адбітку зменіцца. Такім чынам вы атрымаеце з свайго фатаграфічнага апарата своеасаблівы праэкцыйны апарат, якім вельмі добра можна карыстацца як павелічальнікам. На самай справе: калі часова спыніць паток святла, замацаваць на экране ліст фотапаперы, дык і адбудзецца пячатанне з павелічэннем.

Практычна такія павелічальнікі зручней рабіць пры наяўнасці электрычнага святла. Але магчыма працаваць з ім і пры дзённым святле. Калі работа вядзецца пры электрычным святле, паміж лямпачкай і негатывам трэба ставіць спецыяльны кандэнсатар (з адной, двух або трох лінз) або ставіць які-небудзь іншы рассейвальнік святла. Пры выкарыстанні дзённага святла ніякага кандэнсатара ставіць не трэба.

У памяшканні, дзе займаюцца фотапавелічэннем, усе вокны перакрываюцца светанепранікальнымі шчытамі. У адным з іх робіцца два прамавугольныя вырэзы: адзін для замацавання ў ім чырвонага шкла, другі для таго, каб да яго прыставіць павелічальнік. У выпадку, калі акно выходзіць на сонечны бок, трэба зрабіць шарнірны шчыток як паказана на мал. 2.




Мал. 2.

Пры фатаграфаванні апаратам «ФЭД», «Зоркі» або іншым (якія не маюць меха, які рассоўваецца, і задняй сценкі, якая адымаецца) для павелічэння выкарыстоўваецца толькі аб'ектыў. У гэтым выпадку павелічальнікам з'яўляецца невялікая самаробная скрынка. Праз аснову скрынкі рухаецца істужка з негатывам (мал. 3), у накрыўку-ж увернуты аб'ектыў. Адлегласць ад негатыва да асновы аб'ектыва павінна адпавядаць фокуснай адлегласці аб'ектыва, г. зн. для апарата «ФЭД», «Зоркі» быць роўнай 5 см. Наводка на рэзкасць робіцца апусканнем аб'ектыва і яго высоўваннем. Вельмі зручна такое, напрыклад, удасканаленне гэтага апарата. Замест скрынкі пастаяннага памеру робіцца тубус з двух шчыльна ўваходзячых адна ў другую кардонных трубак. Да асновы знешняй, шырэйшай, трубкі прымацоўваецца рамка для негатываў. У пярэднюю частку унутранай трубкі ўвінчваецца аб'ектыў. Наводка на рэзкасць можа тады адбывацца не столькі ўтоплiваннем аб'ектыва, колькі перамяшчэннем унутранай трубкі.




Мал. 3.

Для вызначэння правільнай экспазіцыі трэба да экрана прымацоўваць не цэлы ліст фотапаперы, а невялікую частку яго. Пры гэтым трэба карыстацца светлачырвоным або цёмнажоўтым шклом, ставячы яго адразу перад аб'ектывам. Тады чырвонае або цёмнажоўтае святло, якое падае на экран, дазволіць вам прымацаваць паперу не вобмацкам і ў найбольш характэрным участку адбітку.

Памер артыкула для часопіса не дае магчымасці дэталёва расказаць аб канструяванні самаробных павелічальнікаў, дазваляючы даць толькі асноўныя прынцыпы будовы гэтых апаратаў. Разам з тым рэдакцыя часопіса з ахвотай вернецца да гэтай тэмы ў выпадку далейшай зацікаўленасці нашых чытачоў ёю. Апісанне ўдалай канструкцыі павелічальніка, зробленага адным з нашых чытачоў-фотааматараў, можа быць змешчана на старонках часопіса «Маладосць».

**С. АЛЯКСАНДРАЎ.**

**Гэты артыкул друкуецца па просьбе нашага чытача Івана Пракаповіча (Гродзенская вобласць, Шчучынскі раён, калгас «Большэвік»).**

**Просім чытачоў напісаць у рэдакцыю, якія парады, кансультацыі, чарцяжы, схемы яны жадалі-б убачыць у раздзеле «Вучыся рабіць сам!»**

## САТЫРА І ГУМАР



# Лізуня

Л. АРАБЕЙ

Мал. С. Раманава.

Студэнткаю Лізачкай нельга было не захапляцца. Тоненькая, стройная, як тапопя. Васількі-вочы хаваліся ў чорных доўгіх вейках. Жоўтыя, як спелае жыта, косы тоўстымі перавяслямі ляжалі на спіне. Адным словам, Лізачкаю захапляліся не толькі хлопцы, многія з якіх, патаемна і адкрыта, былі закаханы ў яе, але і такое патрабавальнае і рэўнівае асяроддзе, як дзяўчаты. А калі дадаць, што ў гэтай дзяўчыны быў і залаты характар, то стане зусім зразумелым, чаму Ліза так усім падабалася.

Асноўнаю рысаю яе характару была мяккасць. Ніхто ніколі не чуў, каб яна з кімнебудзь пасварылася, хоць калі-небудзь павысіла свой голас. З усімі яна гаварыла ласкава і мякка. Ну, проста, не гаварыла, а мурлыкала, як кошачка, ці буркавала, як галубка. Напэўна таму некаторыя дзяўчаты звалі яе не Ліза і нават не Лізачка, а яшчэ больш ласкава — Лізуня.

І раптам Лізачку нібыта падмянілі. Не, яна засталася такою-ж ласкаваю і жаласліваю, як і была, але ў знешнасці яе адбыліся перамены і зусім нечаканыя.

Заўважылі гэта ў тыя першыя-ж дні, калі ўся група студэнтаў выехала на практыку. Пачалося з таго, што ў Лізы змянілася прычоска. Замест бліскучых роўненькіх кос, якія заўсёды так хораша ляжалі ў Лізы на спіне, яна раптам з'явілася з галавою, на якую быў ускінуты ну проста сноп саломы. Назаўтра Лізачка была ў такой пакамечанай сукенцы, нібы сукенку гэтую цэлую ноч жавала карова. На трэці дзень хадзіла ў блузцы з напалову адарваным рукавом.

— Што з ёю? — пачалі шаптацца дзяўчаты. — Ці не захварэла?..

— Можа ты хворая, Лізуня? — пыталіся ў яе дзяўчаты.

— Не, што вы, — адказвала яна і цяжка ўздыхала.

— Можа, закахалася? — выказала аднойчы сваё падазрэнне маленькая вяртлявая Танечка.

— Што ты, што ты?.. — замахала на яе рукамі Воля — чырвонашчокая дзяўчына з вялікаю капою чорных, непаслухмяных кудзеркаў. — Калі закахаешся, дык, наадварот, яшчэ больш пачынаеш сачыць за сабой.

— А калі каханне няшчаснае? — усхвалявалым голасам прагаварыла Таня.

На гэты довад, ні ў кога не знайшлося што адказаць, толькі кожная з дзяўчат спачувальна ўздыхнула.

Як-бы там ні было, але факт заставаўся фактам, і дзяўчаты вырашылі, што ў Лізы проста вельмі вялікая сіла волі і яна не падае выгляду, што закахалася, каб яе ніхто не шкадаваў.

І тады Таня з Воляй узялі апеку над сяброўкай.

Назаўтра Таня ўстала раней за Лізу, неўзаметку ўзяла яе сукенку і, адпрасаваўшы, павесіла на крэсла каля ложка.

Ліза ўстала, апранулася, але была так занята сваімі пакутлівымі думкамі, што нават не заўважыла, што сукенка ў яе адпрасаваная.

На другі дзень Воля ўстала раней за Лізу, прышыла да блузкі амаль ужо зусім адарваны рукаў і пачысціла чаравікі. Але Ліза зноў нічога не заўважыла.

Сяброўкі цяжка ўздыхалі.

— Ах, як трэба чалавеку пакутаваць, каб зусім не заўважаць навакольнага жыцця,—казалі яны.

Час ішоў, а Лізачка па-ранейшаму не звяжала на сябе, па-ранейшаму не мілы быў ёй белы свет. Дайшло да таго, што дзяўчаты пачалі яе прычэсваць і ўкладваць на спіне яе цудоўныя залатыя косы. І чым-бы ўсё гэта скончылася — невядома, але хутка закончылася практыка і ўсе вярнуліся ў горад.

У горадзе Лізачка зноў стала сама сабою. Зноў, як прыгожы матылёк, пачала яна лётаць па аўдыторыях і калідорах універсітэта, пасылаючы ва ўсе бакі свае чароўныя ўсмешкі і атрымліваючы такія-ж усмешкі ў адказ.

— Няўжо мы памыліліся і яна не была закаханаю? — голасам чалавека, якога ашукалі або страшэнна абразілі, спытала Воля ў Тані.

— А можа, ён, нарэшце, адказаў ёй узаемнасцю?—выказала новае меркаванне заўсёды здагадлівая Таня.

— Магчыма, — узрадавалася Воля. — І наогул, я не ведаю, як ты, а я ўжо не магу больш жыць, не даведаўшыся, хто яе выбраннік.

— Я таксама вельмі хацела-б ведаць яе таямніцу, — уздыхнула і Таня.

Дзяўчаты паднялі ўгору вочы, прыдумваючы спосаб, як выведаць тайну сваёй сяброўкі.

— Прыдумала! — ускрыкнула Таня. — Мы сёння купляем тры білеты ў тэатр на «Рамео і Джульету», — сёння акурат ідзе. На трэці білет запрашаем Лізачку. Не можа быць, каб пасля такога спектакля яна не расказала нам аб сваім Рамео, асабліва калі мы пачнем распытваць.

— Якая ты хітрая, Танечка! — закрычала Вольга і кінулася абдымаць сяброўку. — Я б ніколі так не прыдумала.

Змову адразу-ж пачалі ажыццяўляць, і, трэба сказаць, што пачатак яе ўдаўся як нельга лепш. Ліза з задавальненнем згадзілася пайсці ў тэатр.

— Як добра вы зрабілі, мілыя, — прамовіла яна, схіляючы сваю залацістую галоўку то на плячо Тані, то на плячо Волі. — Я так хачу паглядзець гэты спектакль! — і яна глыбока ўздыхнула.

Таня і Воля ўсміхнуліся, як вялікія змоўшчыцы, і хітра паглядзелі адна на адну.

— Волечка, Танечка, вы ведаеце, дзе я жыву? — шчабятала Ліза.

Але дзяўчаты не ведалі, дзе жыве яна.

— Я жыву ў тым вялікім доме, што каля ўніверсітэта. Першы пад'езд, другі паверх. Акно з балконам. Роўна ў сем гадзін чакайце каля пад'езда, я буду гатова і мы пойдзем.

...Без пяці хвілін сем дзяўчаты былі каля пад'езда. Лізы яшчэ не было. Яны пачакалі пяць хвілін, але яна не паказвалася. Яны пачакалі яшчэ пяць хвілін, праз кожную секунду паглядаючы на гадзіннікі, але тая не выходзіла.

— Давай зойдзем да яе, паглядзім, чаму не ідзе, — прапанавала Воля.

Дзяўчаты падняліся на другі паверх і адчынілі дзверы кватэры, у якой жыла Ліза. Да дзяўчат даляцелі нейкія прарэзлівыя гукі. Спачатку дзяўчаты не зразумелі, што гэтыя гукі азначаюць, але хутка разабраліся, што гэта — чалавечы голас, які не гаворыць, а выкрыквае словы. Голас дзяўчатам здаўся знаёмы. Так, гэта быў голас Лізачкі, але яны ніколі не чулі, каб яна гэтак крычала — моцна і з такім прывізгваннем.

— Карова! Свіння! — крычала Лізачка.

— І чаго гэта надумала яна цяпер вучыць заалогію? — ціха спытала Воля ў Танечкі.

— Бачыш, аддзел «хатнія жывёлы» зубрыць, — прашаптала Таня.

У той час, як быў названы чарговы прадстаўнік жывёльнага свету, з аднаго пакоя ў другі, праз пярэднюю, дзе стаялі дзяўчаты, прабегла хатняя работніца — маленькая старэнькая жанчына—з прасам у руках. Яна так



спяшалася, што нават не заўважыла дзяўчат. Як толькі жанчына ўбегла ў пакой, адкуль даносіўся голас Лізачкі, там пачуўся нейкі шум і стук, нібы нехта нагою падкінуў крэсла, а пасля нечым некуды шпурнуў.



— Разява няшчасная! — чуўся голас. — Гэта-ж трэба — толькі зараз адпрасавала мне сукенку! Хіба не казала я табе, старая качарыжка, што я іду сёння ў тэатр! А што-б было, каб я яшчэ пяць хвілін паспала? Гэта-ж, каб я не падняла гвалту, сукенка і да гэтага часу не была-б гатовая!

Апошнія словы Лізы суправаджаліся зноў нейкім стукам і шумам.

— Валасы, валасы заплятай! — зноў завярашчала Ліза.

— Зараз, зараз усё будзе гатова, — адказаў жаночы голас.

— А чаравікі! Да гэтага часу не пачышчаны чаравікі! Ну, хутчэй, хутчэй! Падумаць толькі, да гэтага часу не падрыхтаваць усё як след! Ды хопіць, хопіць, бо пазнюся, ведзьма ты старая, ведзь...

Слова «ведзьма» Ліза прагаварыла ўжо ў пярэдняй. Яна хацела паўтарыць гэтае слова, якое, відаць, вельмі ёй спадабалася, але Таня перашкодзіла ёй гэта зрабіць. З размаху Ліза наляцела на Таню, і слова так і засталося вымаўленым толькі напалову.

Збітая на поўслове, Ліза спынілася. У адзін міг вусны яе, якім перашкодзілі вымавіць слова «ведзьма», расплыліся ў адну з самых салодкіх усмешак, якія магла падараваць толькі Лізачка, Лізуня.

— Ах, прабачце мне, — замурлыкала яна, — я крышку спазнілася і прымусіла вас чакаць, але я ўжо гатовая, і мы можам ісці, — і Лізачка ўслед за Таняй і Воляй пайшла да дзвярэй. Але, калі яна хацела зрабіць крок за дзверы, Таня і Воля раптам зачынілі іх, пакінуўшы Лізачку ў кватэры.

Ліза націснула на клямку.

— Што такое, у чым справа, чаму вы трымаеце дзверы? — здзіўлена пыталася яна. — Мы-ж спознімся ў тэатр...

Але ёй ніхто не адказваў. Лізачка з хвілінку пастаяла за дзвярыма, а пасля адчыніла іх. На лесвіцы нікога не было, Толькі ў шчылінку дзвярэй была засунута нейкая блакітная паперка.

Ліза ўзяла яе.

— Рад 5, месца 12, — прачытала.

— П-падумаеш, — сказала яна, камечачы блакітны білецік.

— П-падумаеш, — сказала яна назаўтра, калі ўпэўнілася, што ні на адну з яе чароўных ўсмешак ніхто на курсе ёй не адказаў.

Гэтае «п-падумаеш» пачула Воля.

— Вось і падумай! — сказала яна.

Уладзімір **КОРБАН**




Байка

Ледзь-ледзь закончыўшы дзесяты клас,
Рашыў падацца ў інстытут Панас.
        Бацькі забегалі па Мінску.
Ды вось бяда — бывае-ж так —
Не здолелі ўпіхнуць яго ніяк
        Ні ў фізкультурны, ні у медыцынскі.
        Раскідалі поўтузіна заяў
        І ў юрыдычны, і ў педагагічны,
        Але ніводзін інстытут сталічны
        Панаса не прыняў,
Бо ў хлопца тройкі — ні адной чацвёркі.
        Панас імчыцца ў Горкі,
        У Брэст, у Гродна, ў Магілёў,
Але і там пралазу не знайшоў:
        Юнак галоўкай слабаваты, —
        Правальваецца кожны раз.
Нарэшце прамінуў прыёмны час,
        І прыкаціў Панас дахаты.
Здавалася-б, цяпер дарэмна час не траць,
        Ідзі, брат, працаваць.
Але Панас па-свойму вырашыў задачу.
«Не трэба мне ісці, — рашыў ён, — на завод.
        Ды я наступны год
        У інстытут буду, не іначай».
        І цэлы год Панас адпачываў,
        За бацькавай спіною «папраўляўся»,
А восень надыйшла, ў навуку зноў падаўся.
Але ізноў ніводзін інстытут Панаса не прыняў.
І, што вы думаеце, хлопец здаўся?
Ды не! Ён цэлы год яшчэ чакаў,
А потым зноў прыёму дабіваўся.
Знайшлі свой шлях усе яго сябры:
Той — трактарыст, а гэты — майстар на заводзе.
Панас-жа ўсё па інстытутах ходзіць
        Да гэтае пары.

        Нажаль, яшчэ між нас
Таўчэцца не адзін такі Панас.
        Падпілак-бы яму альбо касу у рукі,
        А ён блукае ля навукі.

## 200 кіламетраў у гадзіну

Сёлета мінчане-аматары аўтамабільнага і матацыклетнага спорту наглядалі цікавыя спаборніцтвы. 25 верасня пад Мінскам упершыню ў нашай краіне былі праведзены шасейныя аўтамабільныя гонкі па кальцу.

У адрозненне ад гонак па прамой, якія праводзіліся раней, кальцавыя гонкі ўключаюць пераадоленне крутых паваротаў, складаных працяглых пад'ёмаў і спускаў. Цікавасць да кальцавых гонак узмацняецца яшчэ і тым, што міжнародныя аўтамабільныя спаборніцтвы ў большасці выпадкаў праводзяцца не на прамой трасе, а на замкнутай. Такім чынам, гэты новы від спаборніцтваў дае магчымасць савецкім гоншчыкам рыхтаваць сябе да перамог міжнароднага класа.

Старт і фініш гонак быў на дзевятым кіламетры шасе Мінск — Масква. Дайшоўшы да дваццатага кіламетра, машынам трэба было паварочваць улева, у кірунку на Маладзечна. Затым, пры перасячэнні з Лагойскім шасе, траса рабіла другі рэзкі левы паварот. Не даязджаючы шасці кіламетраў да Мінска, гоншчыкі зноў пад вуглом 90° паварочвалі ўлева, пакідалі на гэты раз асфальтаванае шасе і імчаліся далей па гравійнай дарозе. Апошні левы паварот быў бадай самым складаным і небяспечным. Пры выхадзе на маскоўскае шасе аўтамабілям трэба было не толькі павярнуць на гладкім асфальце, але і ўтрымаць пры гэтым вялікую хуткасць для неадкладнага пераадолення пад'ёму. Самая малая недакладнасць у рабоце вадзіцеля адразу-ж выклікала адставанне машыны і страту часу. Дыстанцыю гонак складалі пяць такіх кругоў, агульнай працягласцю 220,5 км.

Самых лепшых вынікаў дабілася каманда ДСТ «Тарпеда» (г. Горкі, аўтазавод імя Молатава). Яе вынік, па суме трох удзельнікаў, — 5 гадзін 15 хвілін 6,8 секунды. Чэмпіёнамі краіны сталі яе ўдзельнікі майстар спорту Міхаіл Мецелеў і Эдуард Васьковіч. Іх «Пабеда», аснашчаная ўзмоцненым маторам (80 сіл замест звычайных 53-х), прайшла дыстанцыю з сярэдняй хуткасцю 134,378 км. у гадзіну. Найвышэйшая хуткасць, на асобных участках, складала каля 200 км. у гадзіну.

Абодва чэмпіёны працуюць на горкаўскім аўтазаводзе вадзіцелямі-выпрабавальнікамі. Эдуард Васьковіч, які ўдзельнічаў у гонцы як аўтамеханік, з'яўляецца членам ВЛКСМ, нарадзіўся ён у Віцебску.

На здымку: пераможцы гонак, чэмпіёны СССР па аўтамабільнаму спорту М. Мецелеў (злева) і Э. Васьковіч.

**Фото А. Дзітлава.**



## З нашай пошты

### Калі заканчваецца змена...

**Гудок абвяшчае канец змены. З цэхаў выходзяць людзі.**

**Закончан працоўны дзень. Але ў тых, хто спалучае працу на прадпрыемстве з вучобай, яшчэ многа спраў. Крыху адпачыўшы, спяшаюцца яны ў школы, у студэнцкія аўдыторыі.**

**Звыш 1 100 аўтазаводцаў сёлета вучацца ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах.**

**Насупраць прахадной будкі завода — будынак аўтамеханічнага тэхнікума. 350 рабочых — людзей рознастайных прафесій і ўзростаў — вучацца на вячэрнім аддзяленні тэхнікума.**

**Сярод навічкоў, якія сёлета вучацца, можна сустрэць і тых, што прышлі на вытворчасць пасля заканчэння сярэдняй школы. Вось Валянціна Белякоўская. Атрымаўшы атэстат сталасці, яна стала працаваць кранаўшчыцай і паступіла на трэці курс тэхнікума. Разам з ёю вучацца нядаўнія выпускніцы сярэдняй школы Леанора Машкевіч, Мікалай Палякоў, Наталля Пятрова і іншыя.**

**Вярнуўшыся з вайсковай службы на родны завод, Уладзімір Гадуноў, Мікалай Раманаў, Фёдар Захараў і многія іншыя паступілі на вучобу ў тэхнікум.**

**Побач з аўтамеханічным тэхнікумам — будынак, дзе размешчаны філіял Беларускага дзяржаўнага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна. Тут набываюць спецыяльнасць інжынераў па аўтамабілебудаванню і тэхналогіі металаў 250 чалавек. Трэці год займаецца ў інстытуце слесар рамонтна-механічнага цэха В. Аляксееў. Ён не толькі перадавік вытворчасці, але і выдатнік вучобы. Такіх, як Аляксееў у інстытуце многа.**

**Многа маладых рабочых набываюць спецыяльнасць завочна. Каля 60 аўтазаводцаў вучацца завочна ў Ленінградскім індустрыяльным інстытуце, 25 — у Белдзяржуніверсітэце і пядінстытуце, 15 чалавек — у інстытуце народнай гаспадаркі. Апрача таго, каля 500 юнакоў і дзяўчат вучацца ў школах рабочай моладзі.**

**В. НЯХАЙ.**



**На здымку: на практычных занятках у металазнаўчай лабараторыі. Студэнты чацвёртага курса капіроўшчыца інструментальнага цэха Люба Юрэвіч і фрэзероўшчык Адам Малашкевіч.**

**Фото Б. Нікіценкі.**

## 427-ы прыжок

**Шырока вядома ў нашай рэспубліцы імя абсалютнага чэмпіёна па парашутнаму спорту Міхаіла Дзімітрава. Нядаўна парашутыст-спартсмен зрабіў свой 427-ы прыжок з парашутам. Шматлікія прыжкі Міхаіла Дзімітрава з'яўляюцца сапраўдным узорам спартыўнага майстэрства.**

**У 1952 годзе малады парашутыст выступіў на завочных спаборніцтвах пры цэнтральным аэраклубе і заняў другое агульнае месца па спартыўна-парашутнаму многабор'ю. А ў наступным годзе на І рэспубліканскіх асабіста-камандных спаборніцтвах Беларусі па парашутнаму спорту Міхаіл Дзімітраў заваяваў званне абсалютнага чэмпіёна рэспублікі.**

**Кожны новы год прыносіў Міхаілу Дзімітраву новыя перамогі. Яны прыходзілі не самі сабой. Перамогі спартсмена з'явіліся вынікам настойлівай трэніроўкі, тэарэтычнай вучобы, вялікай працы. Сёлета на трэніроўцы зборнай каманды СССР у Саранску ў камбінаваным групавым прыжку трох спартсменаў на дакладнасць прызямлення з затрымкай раскрыцця парашута сярэдняе адхіленне ад цэнтра круга па трох**



**прыжках Міхаіла Дзімітрава і яго таварышаў склала 11 метраў 95 сантыметраў. Гэта перавышае папярэдні сусветны рэкорд, устаноўлены спартсменамі СССР, на 10 м. 30 см.**

**Авіяцыйная спартыўная камісія Цэнтральнага аэраклуба СССР імя В. П. Чкалава зацвердзіла гэты прыжок у якасці ўсесаюзнага рэкорда і ўступіла ў хадайніцтва перад ФАІ аб зацвярджэнні прыжка як сусветнага рэкорда.**

**На ўсесаюзных спаборніцтвах з вышыні 1000 метраў на дакладнасць прызямлення Дзімітраў у першым прыжку прызямліўся на адлегласці 2 м. 10 см. ад цэнтра круга, у другім — на адлегласці 7 м. 16 см. пры сярэднім адхіленні 4 м. 57 см. Гэтым прыжком Міхаіл Дзімітраў заваяваў званне «чэмпіёна СССР па прыжках з вышыні 1000 метраў», за што яму быў уручаны залаты медаль.**

**Н. ГАЦКО.**




пад рэдакцыяй майстра порту
**А. СУЭЦІНА**

### «ЗАКРЫТЫЯ» ДЭБЮТЫ

Мы расказалі ўжо аб «адкрытых» дэбютах і прынцыпах іх разыгрывання. У сучасных турнірах трывала карыстаюцца «закрытымі» і «поўзакрытымі» дэбютамі. «Закрытымі» дэбютамі звычайна называюць пачатак партыі, у якім у першым ходзе белыя пазбягаюць 1. e2 — e4 і іграюць або 1. d2—d4, або 1. c2 — c4, 1. Kg1 — f3, і г. д.

У гэтым выпадку ігра ў цэнтры ўскрываецца значна пазней, набываюць большае значэнне трывалыя **шахматныя фактары**, як: пешачнае размяшчэнне абодвух партнёраў, наяўнасць адкрытых ліній і дыяганалей для дзейнічання фігур. Пры такіх пазіцыях трэба звяртаць асаблівую ўвагу на кожную адзінку матэрыялу, які набывае рашаючую ролю. Наадварот, роля шахматнага часу (тэмпу) траціць сваю цэннасць у параўнанні з «адкрытымі» дэбютамі. Больш таго, у «закрытых» дэбютах нярэдка для атрымання перавагі **неабходна** бывае хадзіць адной і той-жа фігурай (ажыццявіць **манеўр**), каб перавесці гэтую фігуру на значную, каштоўнейшую пазіцыю.

Але і пры «закрытых» дэбютах трэба памятаць, што вельмі часта адбываецца раскрыццё цэнтра і пачынаецца жорсткая фігурная барацьба. Гэта і ёсць асноўная асаблівасць сучаснай дэбютнай стратэгіі. Сёння, пры хуткім развіцці дэбютнай тэорыі, назвы «адкрытыя» і «закрытыя» дэбюты ўжо недасканала перадаюць сутнасць з'явы: у «закрытых» дэбютах ёсць шмат варыянтаў і пазіцый, дзе цэнтр хутка ўскрываецца і барацьба набывае фігурны характар.

Прывядзем прыклад з апошняга першынства СССР 1955 года з партыі Т. Петрасян — М. Тайманаў.

Ферзевы гамбіт

1. d4 d5, 2. c4 e6, 3. Kc3 Kf6, 4. Kf3 c6, 5. e3 Kbd7, 6. Cd3 Cb4, 7. 0—0 0 — 0, 8. Фc2 Cd6?, 9. b3 dc, 10. bc e5 (Чорныя добраахвотна ўскрываюць пазіцыю ў цэнтры, але гэта выгадна белым, якія маюць перавагу ў развіцці і лепшае размяшчэнне фігур.) 11. Cb2 Ле8, 12. Ke4 K : e4, 13. C : e4 h6, 14. Лd d1! (Таксама, як і ў «адкрытых» дэбютах, белыя энергічна мабілізуюць фігуры, улічваючы адкрыты характар пазіцыі.) 14. ... ed. 15. Ch7 + ! Kph8, 16. Л : d ? (Іменна ладдзёй трэба браць пешку, таму што яна прымае ўжо актыўны ўдзел у атацы на караля чорных.) 16. ... Cc5, 17. Лf4! Фe7, 18. Ле4! (Манеўры ладдзёй павучальныя!), 18. ... Фf8, 19. Лh4 f6 (Пагражала 20. Л : h6 + ), 20. Cg6.



(Пазіцыя чорных безнадзейная, таму што атака белых неадольная.) 20. ... Ле7, 21. Лh5 Cd6, 22. Лd1 Ce5, 23. Ca3 c5, 24. Kh4, і чорныя здаліся — ад шматлікіх пагроз белых няма абароны.

Прапануем чытачам самастойна разабрацца ў пазіцыі, якая ўзнікла пасля ходаў прынятага ферзевага гамбіта: 1. d4 d5, 2. C4 dc, 3. Kf3 Kf6, 4. e3 e6, 5. C : c4 c5, 6. 0 — 0 a6, 7. Фe2 cd, 8. ed Ce7, 9. Kc3 b5, 10. Cb3 Cb7, 11. Cg5 0 — 0, 12. Лfe1 Kc6, 13. Лad1.



Адкажыце на наступныя пытанні:

1. Ці могуць чорныя абараніцца ад пагрозы белых 14. d4 — d5;
2. Зрабіце агульную ацэнку гэтай пазіцыі, падмацаваўшы яе варыянтамі.

**Тэрмін прысылкі рашэнняў — месяц з дня выхаду часопіса з друку.**

На першай старонцы вокладкі: **Дзяржаўны сцяг СССР і сцягі саюзных рэспублік.**

Фото А. Дзітлава.

На чацвёртай старонцы: **Масавае гулянне на возеры Нарач.**

Фото М. Ананьіна.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ У № 10 ЧАСОПІСА.

**Па гарызанталі:** 5. Боцман. 6. Кармін. 7. «Дударай». 9. Албанец. 14. Ліда. 15. Аспід. 17. Норд. 18. Марка. 19. Алмаз. 22. Батура. 24. Караван. 25. Паркет. 26. Гарын. 27. Катэр. 33. Турнір. 34. Снайпер. 35. Дублет. 38. Перац. 39. Кізіл. 40. Філе. 41. Санет. 43. Іран. 44. Транзіт. 46. «Казачок». 48. Сакрэт. 49. Ампула.

**Па вертыкалі:** 1. Фонд. 2. Самара. 3. Даклад. 4. Гімн. 7. Джамбул. 8. Абака. 10. Атэль. 11. Цэнзура. 12. Сігнал. 13. Трэнер. 16. Палас. 20. Варыянт. 21. Парапет. 23. Ангар. 25. Парад. 28. Суслік. 29. Анапест. 30. Айран. 31. Абеліск. 32. Пейзаж. 36. Сатын. 37. Фірма. 41. Світэр. 42. Траўма. 45. Абат. 47. Чылі.



**«Молодость».**
Ежемесячный литературно-художественный
и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара — 93-648, намесніка рэдактара — 93-592, адказн. сакратара — 93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі — 93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі — 93-985, аддз. ілюстрацый — 93-892, аддзел пісем — 93-854.

Здадзена ў набор 13.X.1955 г. Падпісана да друку 3.XI.1955 г.
Фармат паперы 70 × 108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб.

АТ 06325. Заказ 672.
Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР,
Мінск, праспект імя Сталіна, 105.
Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# ПРЫМАЕЦ
# ПАДПІС
# НА
# 1956
# ГОД
# НА ЧАСОПІС
# ЦК ЛКСМБ
# „МАЛАДОСЦЬ"

МАЛАДОСЦЬ 5 1955

МАЛАДОСЦЬ 8 1955

Часопіс «Маладосць» друкуе на сваіх старонках апавя
вершы, нарысы, фотанарысы, фельетоны, а таксама а
лы на навуковыя тэмы. У раздзеле «Вучыся рабіць
даюцца розныя карысныя парады.

Часопіс выходзіць адзін раз у месяц.
Падпісная цана:

на 1 год — 24 руб.;
на 6 месяцаў — 12 руб.;
на 3 месяцы — 6 руб.;
на 1 месяц — 2 руб.

Прыём падпіскі на 1956 год будзе пра
тэрміны: ад індывідуальных падпісчы
1955 года. Не адкладвайце афармленне
на апошнія дні!

